
БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 16 (13548)

13— 19 красавіка 1992 года

Цана 2 рублі.

У нумары:



# Пакуль існуе граніца



Хлопец, якога вы бачыце на гэтым здымку,– наш зямляк, радавы М.Шарай. Воля ваенных кіраўнікоў завяла яго на зямлю Таджыкістана. Раней у гэтым нічога дрэннага ніхто не бачыў – адна краіна ўсё ж. Цяпер жа сітуацыя змянілася. Таджыкістан стаў іншай краінай. Але яшчэ не час кінуць зброю – граніца паміж Таджыкістанам і Афганістанам нагадвае аб нядаўняй вайне. У памежных селішчах Афганістана жывуць людзі, якія ўваходзяць у ваенізаваныя групоўкі і маюць добрую ваенную падрыхтоўку.

Можа і надыдзе калісьці час, ды не будзе ніякіх дзяржаўных граніц, ды й золата, якое сустракаецца ў таджыкскіх гарах і служыць прынадай для парушальнікаў граніцы, перастане быць эквівалентам дабрабыту. Гэта будзе не хутка. Але ўжо можна сказаць, што хлопец, якога ўзрасцілі беларускія палеткі, які піў ваду з беларускіх крыніц, будзе абараняць межы сваёй рэспублікі, сваёй краіны, сваёй роднай Беларусі.

*ALFA*

## Камо грядеши?

Куды ж ты крочыш, наша Беларусь? Чаго шукаеш, на каго спадзяешся? Вось ужо некалькі месяцаў на другой паласе "Чырвонкі" мы друкуем меркаванні розных людзей – навукоўцаў, палітыкаў, дзеячаў культуры... Рубрыка "Кур'ер тыдня", пад якой мы даём меркаванні гэтых людзей, на самай справе, можа быць, і не адпавядае свайму зместу. На самай справе гэта кур'ер часу, кур'ер жыцця, кур'ер нашых праблем... А яны, гэтыя праблемы, усё тыя ж... Дарагоўля, дэфіцыт, заняпад нацыянальнай культуры, абыякавасць да мовы, да гісторыі Беларусі. Ды што там пералічваць – мы ж не жывём на аблоках, лёсам наканавана жыць нам на гэтай зямлі, дзе спрадвеку не было міру, спакою, дзе ўсе Праблемы пішуцца з вялікай літары... Зямны рай, у які з-за чалавечай неахайнасці ўкараніўся кавалак пекла, – Чарнобыль...

Мы пытаемся ў людзей – "Што ў вас баліць?". Што баліць... Сэрца баліць за ўсё наша жыццё, за тое, што працавітыя рукі, таленавітыя галовы беларусаў "дзякуючы клопатам" уладу маючых не могуць знайсці сабе прымяненне.

Колькі можна гаварыць пра рэформы? Расейскія дэпутаты пераважнай большасцю імкнуліся звесці ў нябыт рэфарматарскі ўрад гэтай краіны, які бачыў перад сабой адзіную мэту: як мага хутчэй, не зважаючы ні на што будаваць капіталізм. На мой погляд, самай вялікай памылкай гэтага ўрада было: адданне перавагі эканамічным рычагам, незважанне на тое, што асноўная маса прызвычаілася да ўтрыманства, развучылася працаваць. Гэта датычыць не толькі Расіі. Усе радыкальныя рынучныя рэформы могуць прайсці тады і толькі тады, калі зменіцца пакаленне, калі ля станкоў, ля штурвалаў эканомікі, палітыкі стануць тыя, хто толькі як успамін дзяцінства ўяўляе вар'яцкую таталітарную сістэму, якая гасіла нават малюсенькую іскарку прадпрымальніцтва. Адно тое, што шафы ў заводскіх канторах былі забітыя рацпрапановамі, за якія тая ж самая Японія магла даць мільёны; сведчыць аб зацвіласці, нежыццяздольнасці сістэмы, у якой ушчэнт адсутнічала канкурэнцыя.

Калі мы гаворым пра масу, не маем на ўвазе ЧАЛАВЕКА. Мы гаворым пра тое супольніцтва дробненькіх і сярэдненькіх начальнікаў, якія за перабудовай не толькі не страцілі сваіх пасад, а яшчэ больш узмацнілі сваю ўладу, вылучыліся, усплылі на хвалі палітычнага працэсу, не абмежаванай ніякімі рамкамі дэмакратыі, якую ўявілі толькі як усёдазволенасць. Не, не дэмакратыя пануе зараз – анархія. І нават не анархія ў поўным сэнсе гэтага слова, бо яна ўключае ў сябе свабоду асобы, свабоду выбару. Любая анархія падпарадкоўваецца законам, створаным аб'ектыўнай рэальнасцю, законам, па якіх незалежна ад нас развіваецца свет. Маркс і яго паплечнікі ўяўлялі гэтыя законы толькі як змену эканамічных і сацыяльных фармацый. Яны памыліліся ў тым, што эканамічныя фармацыі развіваюцца стагоддзямі, натуральна пераходзячы адна ў адну, не кранаючы асноўнага; уласнасці. Адчужэнне гэтай уласнасці ва ўсе часы называлася адназначна – рабаўніцтва.

Стройныя марксісцкія законы не ўключаюць у сябе аб'ектыўны чалавечы эгаізм, імкненне задаволіць свае патрэбы цяпер, а не на працягу бліжэйшых стагоддзяў. Нашы рэспандэнты, іх думкі – гэта зрэз грамадства, сацыялагічны зрэз, які так доўга, на ўсім шляху камуністычнага ўладарства быў суб'ектыўным на карысць сістэмы. Кранаючы тут праблемы, над якімі ламаюць галовы акадэмікі, я магу выклікаць і ўсмешку з іх боку – вось, маўляў, куды замахнуўся! Але на мой погляд (ды і не толькі на мой) не адукацыя і не навуковыя пасады даюць права гаварыць аб надзённых праблемах грамадства. Для гэтага патрэбна толькі адно – жыць у грамадстве, ведаць людзей, іх праблемы, іх патрэбы. Словы застаюцца словамі, і толькі адно слова можа прэтэндаваць на аб'ектыўнасць – слова большасці народа, прычым з папраўкай на меркаванні меншасці. Каб захаваць яго правы, каб не выклікаць чарговую грамадзянскую вайну. Што ж, фокс популі – фокс Дэі.

**Алесь Аксаніч.**

## Замалёўкі з Камароўкі

Гавораць, што калі хочаш больш даведацца пра той ці іншы горад і пра яго жыхароў, адразу ж накіроўвайся на гарадскі рынак. У гэтых словах, напэўна, ёсць доля праўды. Бо менавіта на рынку праяўляюцца асаблівасці, традыцыі, нацыянальны састаў насельніцтва, яго матэрыяльны дастатак і культура.

А цяпер давайце ўявім чалавека, які ўпершыню апынуўся ў Мінску на ўсім вядомым сваёй (нярэдка далёка не добрай) славай Камароўскім рынку. Такому чалавеку, напэўна, было б нялёгка скласці ўяўленне пра народ Беларусі. Ва ўсялякім разе, яно хутчэй за ўсё было б памылковым. Узяць хаця б той жа нацыянальны склад насельніцтва нашай рэспублікі... Калі параўнаць яго з "нацыянальным складам" гандляроў (а ў апошні час і пакупнікоў) Камароўкі, то можна падумаць, што працэнтаў дваццаць насельніцтва Беларусі складаюць жыхары паўднёвых рэспублік, наяўнасць якіх за прылаўкамі гандлёвых радоў стала амаль што асноўным атрыбутам Камароўкі. Беларускую мову на рынку таксама можна лічыць амаль што экзатычнай. І гэта, напэўна, не з-за таго, што беларусы не ведаюць яе, а хутчэй за ўсё па іншай прычыне: усё з-за той жа разнамаснасці рынучнага кантынгенту. Сапраўды, не будзеш жа прапаноўваць нейкаму абхазцу свой тавар на беларускай мове: ён жа ўсё роўна не зразумее.

А зараз давайце паспрабуем прайсціся паміж гандлёвымі прылаўкамі. Тут можна набыць практычна ўсё, пачынаючы ад простай іголкі і заканчваючы газавымі балончыкамі, пісталетамі і нават кулямётам. Але не будзем кідацца ў такія крайнасці, а проста station паназіраем за жыццём Камароўкі...

Значная частка наведвальнікаў рынку стараецца як мага хутчэй прайсці тыя рады, дзе гандлююць квашанай капустай і маласольнымі агуркамі, адварочваючы пры гэтым тварыкі і ліхаманкава, як рыбы, хапаючы роцікамі паветра. Сапраўды, пах тут не з прыемных. І вытрымаць яго могуць толькі самі гандляры і можа якая гаспадыня, да якой наехалі няпрошаныя госці і іх трэба чымсьці частаваць.

Але мочаная агародніна засталася ззаду, а вакол – нібы ў казках Шахеразады!! – горы акуратна раскладзеных на прылаўках паўднёвых фруктаў, з-за якіх хітравата-фанабэрыстымі ўсмешкамі выглядваюць твары іх гаспадароў: "Паспрабуй купіцы" Спрабуем. Але... Але, атрымаўшы першую інфармацыю (г.зн. пра кошт тавару), паварочваемся і развесіўшы слюні, чыкільгаем далей...

Ну, вось дагуляліся. Некалькі "дэбілаў" у скураных куртках нешта настойліва патрабуюць. Праз стук зубоў і нейкі шум у вушах даносіцца: "Пацаны, ганіце палціннікі!".

Мазгавыя звіліны пачынаюць ліхаманкава варушыцца, падымаючы валасы. Не, нічога іншага не застаецца, як толькі прамямліць: "Му-му-мужыкі, у мяне толькі на метро!" І голас нейкі не мой... "Ай, хай ідзе. Збялеў, бедалага, увесь". Я з удзячнасцю гляджу на свайго "дабрадзея" і, перастаўляючы ватныя ногі, хутчэй рулю ў самую гушчу людзей. Толькі далей ад гэтых крутых хлопцаў. Рукі яшчэ нейкі час трасуцца, але вось – ура! АМАН! – можна прыткнуцца непадалёку ад гэтых шыракаплечых мужыкоў, якія, дарэчы, калі пераапрануць іх у скуранкі, будуць вельмі падобныя да тых "дэбілаў". Але аманаўцы не такія. Яны не патрабуюць палціннікі. Хлопцы гэтыя тут па іншай справе. Аманаўцы – сапраўдны біч для гандляраў цыгарэтамі і "вогненнай" вадой. Касякі бабулек з пачкамі "Космасу", "Арбіты" і г.д. зараз жа рассейваюцца па рынку. Але не ўсе. Адна "затармазіла", і каўнярок яе паліто зараз жа апынаецца ў жалезных руках "ворага ўсіх спекулянтаў". Бабулька нешта лапоча, лыпаючы вочкамі і дрыгаючы ў паветры смешнымі крывымі ножкамі. Нарэшце над ёй "злітаваліся". Аманавец паставіў яе на зямлю. Потым лёгенькі штуршок у спіну, пасля якога "спекулянтка" па інерцыі з хуткасцю гуку "пралятае" метраў трыццаць. Спыняецца яна толькі на вуліцы. Яшчэ нейкі час штосьці шапоча (напэўна, успамінае ўсіх святых), а потым у яе старэчых руках зноў з'яўляюцца пачкі цагарэт. Пранесла!

...Гудзе, жыве Камароўскі рынак. Зрэдку паветра ўзрывае нечы роспачны крык: "Укралі! Кашалёк укралі!" Там зараз жа збіраецца натоўп разявак. На тварах – шырокія ўсмешкі: "Не спі, даражэнькая..." Падышоўшы міліцыянер, лагодна глянуўшы ў заплыўшыя слязамі вочкі пацярпеўшай, ласкавым голасам гаворыць: "А ты куды глядзела? Дзе твае вочы былі? Менш трэба зубы сушыць, а больш за рэчамі сваімі назіраць!" Вось так.

Так што, апынуўшыся на Камароўцы, не вельмі "сушыце зубы" (асабліва калі яны ў вас залатыя).

**Ф.ЛЯВІЦКІ, студэнт журфака.**

*Навіны культуры*

### "Я люблю балет!"

Так называецца першы Міжнародны фестываль харэаграфічнага мастацтва, які пройдзе з 15 па 21 красавіка ў Мінску. Акрамя харэаграфічных вучылішчаў краін СНД і былога СССР, у ім прымуць удзел творчыя калектывы Канады, Югаславіі, Англіі, Швейцарыі, ЗША і інш. Самыя знакамітыя харэографы і мастацтвазнаўцы будуць прадстаўляць журы фестывалю.

Ну, і як звычайна, на цікавым відовішчы заўсёды існуе праблема "лішняга білеціка". Ходзяць нават чуткі, што білецік гэты набыць можна толькі за валюту. Галоўны адміністратар опернага тэатра ўдакладніла, што за валюту прададзена толькі частка білетаў, а якая, параіла даведацца ў дырэктара харэаграфічнага вучылішча Л.Ф. Каробкінай. Адказ Людмілы Фёдараўны расставіў усе кропкі над "і": "Мы не прадавалі аніводнага білета за валюту. Пакінулі толькі частку білетаў для магчымых гасцей фестывалю. І калі яны пагодзяцца заплаціць валютай, мы, зразумела, не адмовімся".

**М. Шэндрык.**

### Галіна Русак вяртаецца ў карцінах

Цікавую сустрэчу з мастацтвам падарылі нядаўна мінчанам работы беларускай мастачкі Галіны Русак, якая жыве цяпер у ЗША. Выстава прайшла ў Дзяржаўным мастацкім музеі РБ пры садзеянні Беларускага Фонду культуры, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, беларуска-польскай фірмы "Амега" і рэдакцыі часопіса "Мастацтва".

Перш за ўсё гэта знаёмства з творчасцю беларускага мастацкага замежжа, якое стала магчымым у выніку перамен у жыцці нашай краіны. Больш як сорак гадоў таму Г. Русак пакінула Беларусь, захаваўшы ў памяці вобразы народных казак і легенд, матывы беларускага фальклору.

Навучаючыся ў розных гарадах Еўропы і атрымаўшы гуманітарную адукацыю, Галіна Русак пачала пісаць карціны, якія экспанаваліся ў выставачных залах ЗША. Вольная ад таталітарных традыцый і ўмоў, уціску на творчасць яе суродзічаў, яна магла знайсці своеасаблівы, індывідуальны стыль.

Знаёмства з творчасцю Г. Русак працягваецца цяпер у Магілёве і Навагрудку.

**З. Фаменка.**

*Тэлетайп*

### "Дзеці ў бядзе"

У Бабруйску створана грамадская арганізацыя пад назваю "Дзеці ў бядзе". Яе ініцыятарамі сталі маці дзяцей, якія пакутуюць на анкалагічныя і гематалагічныя захворванні. Арганізацыя ставіць сваёй мэтай дапамагчы ўсім дзецям, пра якіх наша медыцына з-за сваёй беднасці не можа паклапаціцца.

### Беларусь далёкая і блізкая

Выстава пад гэтай назвай адкрылася ў галоўнай нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. На ёй прадстаўлены выданні беларускага замежжа, дакументы, навуковыя працы, перыядычны друк і мастацкая літаратура беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў.

### Дык колькі ж каштаваў Чарнобыль?

Навукоўцы Інстытута эканомікі Акадэміі навук Беларусі распрацавалі новую методыку разліку страт, якія панесла наша рэспубліка ад чарнобыльскай аварыі. Яны лічаць, што сума страт перавысіць не толькі афіцыйныя 80 мільярдаў рублёў, але і 200 мільярдаў, вызначаных у свой час групай незалежных экспертаў. Доследы працягваюцца.

### Вуліца імя Папы Рымскага

Яна з'явілася ў невялічкім пасёлку Сапоцкін, што недалёка ад Гродні. На сесіі мясцовага Савета большасць дэпутатаў прагаласавалі за перанайменне вуліцы Леніна ў вуліцу імя Папы Рымскага Іаана Паўла II. За новую назву выказаліся практычна ўсе жыхары пасёлка.

### Забойца Талькова?

Як паведамляе пракуратура Расіі, Талькоў быў забіты не па палітычных матывах. Санкт-Пецярбургская пракуратура ўстанавіла асобу, якая забіла вядомага спевака. Злачынцу шукаюць, але імя яго пакуль не паведамляецца. Былы ж падазраваемы Малахаў будзе прыцягнуты да суда толькі за незаконнае нашэнне агнястрэльнай зброі.

### ЛЕПШЫ БАТАЛЬЁН

14 красавіка адбыліся ўрачыстасці, прысвечаныя ўзнагароджанню батальёна ДПС УУС Мінскага аблвыканкама. Чытачы памятаюць матэрыял пра гэты батальён, які быў змешчаны на старонках "Чырвонай змены" ў сакавіку гэтага года. І вось цяпер батальён, які быў прызнаны лепшым у рэспубліцы, атрымаў узнагароду. Прадстаўнікі Міністэрства ўнутраных спраў палкоўнік міліцыі М.І.Харужы і падпалкоўнік міліцыі М.Н.Нядбальскі ўручылі пераможцам ганаровыя граматы, падарункі. Палкоўнік Харужы ў сваім выступленні распавёў аб перспектывах работы Дзяржаўтаінспекцыі, а таксама паведаміў, што мэтавым прызначэннем у Рэспубліканскі фонд "Доўг" пералічана 15 тысяч рублёў. Яны прызначаны сем'ям супрацоўнікаў ДАІ, якія служылі ў батальёне ДПС і загінулі пры выкананні службовых абавязкаў. Гэтая дабрачынная акцыя ставіць перад сабой мэту дапамагчы сем'ям тых, хто аддаў сваё жыццё, выконваючы сваю нялёгкую, але такую патрэбную службу. Будзем спадзявацца, што лепшы батальён ДАІ і надалей застанецца лепшым, сапраўднай пагрозай для злачынцаў на колах.

**С.Шостак.**

### Скаўты — на талаку!

5 траўня — Радаўніца, дзень памінання памерлых. 6 траўня — Юр'я (Георгій), старадаўняе земляробчае свята, хрысціянскае свята. Яго заўсёды адзначалі скаўты, бо лічылі святога Юр'я сваім заступнікам.

Канцылярыя Аб'яднання беларускіх скаўтаў (АБС), якое было створана ў сакавіку, заклікае сваіх сяброў і ўсіх дзяцей, хто шануе сваіх продкаў, нацыянальныя традыцыі, адзначыць знамянальныя дні працоўнай талакою на могілках: санітарная ўборка, упарадкаванне.

Менскія скаўты 30 красавіка (а 11 гадзіне) выйдуць на вальную талаку ў Курапаты.

Аб зробленай рабоце, юныя карэспандэнты, паведамляйце нам праз газеты.

**Алесь Лозка,**
**скаўт-падканцлер АБС.**

## КУР'ЕР ТЫДНЯ

*Адам МАЛЬДЗІС, дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага Цэнтра імя Францішка Скарыны:*



– Як і раней, мяне найбольш трывожыць нізкі ўзровень нацыянальнай самасвядомасці, які не адпавядае абвешчанаму суверэнітэту. Калі вобразна, дык мы, нібы тая маладзіца, якой пара рабіць выбар, самастойна вырашаць свой лёс, але яна не дужа да гэтага гатовая. Мы хістаемся то направа, то налева, на ўсход, на захад, хочам, каб хтосьці за нас вырашаў. Мы пакуль не прывыклі да самастойнасці.

Калі ўсе жыхары Беларусі – не толькі беларусы, але і людзі іншых нацыянальнасцей – не ўсвядомяць, што іншага выбару ў нас няма, яго нам проста не дадзена, што трэба выкарыстоўваць гістарычны шанс, падараваны нам лёсам, гісторыяй,– гэта прывядзе да таго, што фундамент нашага дома расплывецца, што наш нацыянальны дом проста перастане існаваць.

*Станіслаў НІЧЫПАРОВІЧ, першы намеснік старшыні Дзяржкамдруку:*



– Вельмі непакоіць фінансавае становішча выдавецтваў у сувязі з павышэннем цэн. Падаражалі матэрыялы, паліграфічныя паслугі... Акрамя таго, непрыемна ўсхвалявала ўвядзенне новай сістэмы падаткаабкладання. Усё гэта прывяло да таго, што ўсе выдавецтвы, раней прыбытковыя, сталі неплацежаздольнымі. Дзяржаўнае ж фінансаванне абмежаванае, яно падлічвалася, сыходзячы з мінулагодніх цэн. Тым больш, што фінансавым падсілкаваннем будзе карыстацца толькі сацыяльна значная літаратура – беларускамоўная, навуковая, дзіцячая і г.д. Хаця Міністэрства адукацыі, напрыклад, і выкупляе заказаныя ім падручнікі, але фінансавыя праблемы ёсць і тут. У сувязі з гэтым, на мой погляд, прыйдзецца пераглядаць практыку бясплатнага забеспячэння падручнікамі.

Але хвалюе мяне не толькі кнігавыдавецкая дзейнасць. Міністэрства інфармацыі абавязана абараняць таксама перыядычны друк. Прэса ў заняпадзе, недахоп фінансаў можа прывесці да таго, што яна проста перастане існаваць. Будуць расці цэны, скароціцца попыт не толькі на кнігі, але і на перыёдыку. Гандаль бярэ зараз толькі тое, што зможа хутка рэалізаваць.

А на што трэба спадзявацца? Беларускія выданні, у прыватнасці, падтрымлівае дзяржава, іх заснавальнікі – Вярхоўны Савет, Саўмін. Што датычыць астатніх... скажам шчыра, яны павінны спадзявацца толькі на сябе, на магчымых спонсараў. Зараз жа выкананне дзяржзаказу па кнігавыдавецтву стаіць пад пагрозай. Астатняе пакажа рынак.

*Вольга АКУЛІЧ, паэтка, аўтар-выканаўца сваіх песень:*



– Што мяне хвалюе? Насмарк, асабліва ж тое, што лекаў ад яго не знайсці. Толькі калі ў валютную аптэку пайсці. А на вялікі рахунак – непакоіць тое, што людзі занадта спакойна ўспрымаюць усё, што вакол адбываецца. Цэны ў дзесяць разоў падняліся – маўчаць! Толькі ў чэргах калі-нікалі адзін аднаму паплачуцца. Сацыяльнага гоману няма... Заціша перад навальніцай?

Шмат артыкулаў чытала, у якіх сцвярджаюць, што да ўлады могуць прыйсці... ну, скажам, нехта накшталт фашыстаў. Параўноўваюць сітуацыю з той, што была ў Германіі ў 30-я гады. Але ж і сама наяўнасць такіх артыкулаў – палка з двума канцамі: яны не толькі аналізуюць падзеі, але і пэўным чынам правакуюць развіццё падзей. Калі народу ўбіць у галовы, што фашызм можа прыйсці – ён прыйдзе. Хаця я чалавек у прынцыпе апалітычны... Проста не хачу, каб хтосьці маімі рукамі жар заграбаў. Ну, і вядома, матэрыяльныя праблемы – каго ж яны не хвалююць? Што ж да творчасці – рыхтуюся запісваць новы альбом.

"ПАС" падрыхтавала
Алена Агібалава,
рэдактар па пытаннях палітыкі.
Тэл. 39-87-94.

*Рэферэндум. Выбар без уціску*

# СКОНЧАНЫ ЗБОР ПОДПІСАЎ

13 красавіка, а 15-й гадзіне да пад'езда колішняга Дома палітасветы пад'ехаў аўтобус, загружаны... пакункамі з падпіснымі лістамі. Апошнія ўтрымлівалі 446 тысяч подпісаў грамадзян нашай рэспублікі. Так скончылася сямітыднёвая праца ініцыятыўнай групы па збору подпісаў у падтрымку рэферэндуму.

Ініцыятыўная група № 1 па правядзенню рэспубліканскага рэферэндуму была ўтворана 11 студзеня 92-га года. 13 лютага Цэнтральная камісія па рэферэндуму Рэспублікі Беларусь рэгіструе пытанне, якое вынесена на мяркуемы рэферэндум: "Ці лічыце вы неабходным правядзенне ўвосень 1992 года выбараў у вышэйшы орган дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь на падставе "Закона аб выбарах народных дэпутатаў Беларусі", праект якога ўнесены апазіцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце, і ў сувязі з гэтым датэрміновы роспуск цяперашняга Вярхоўнага Савета?"

З 21 лютага распачынаецца збор подпісаў. Да 14 красавіка, згодна з законам, неабходна было сабраць 350 тысяч подпісаў. Сабраны ж 446061 подпіс.

За зачыненымі перад самым носам цікаўных журналістаў дзвярыма адбыўся своеасаблівы гістарычны момант: перадача пакетаў (па тысячы лістоў у кожным!) з вынікамі працы "ініцыятыўшчыкаў" прадстаўнікам Цэнтральнай камісіі па рэферэндуму. Нягледзячы на ўваходжанне ў гісторыю, не абышлося без непаразуменняў. Абодва "высокія бакі" падрыхтавалі розныя (кожны – свой) сцэнарыі "прыёмаздатачнай" працэдуры. Шаноўная камісія ў парыве службовай абачлівасці мелася распакоўваць кожны пакет і пералічваць змешчаныя там лісты. Такі кантроль мог зацягнуцца да раніцы, а то й надалей. Бо пакетаў налічылі 126 штук. Уявіце, якой самаахвярна-тытанічнай працы прысвяцілі б сябе і Цэнтральная камісія па рэферэндуму, і ініцыятыўная група. Дзякуй лёсу, перамовы скончыліся на іншым выйсці. Больш прымальным быў прызнаны спосаб перадачы, прапанаваны ініцыятыўнай групай. Пакункі без неадкладнай рэвізіі іхняга змесціва былі перададзены з рук у рукі, што і засведчыў "Заключны акт". Што далей? Законам адведзены месяц на афіцыйны разгляд Цэнтральнай камісіяй прадстаўленых лістоў, праверку іхняй адпаведнасці ўстаноўленым заканадаўствам нормам.

Журналістам на прэс-канферэнцыі была пададзена цікавая раскладка колькасці сабраных подпісаў па розных абласцях Беларусі (у працэнтных суадносінах да агульнай колькасці зарэгістраваных "галасоў" у падтрымку рэферэндуму):

| | |
|---|---|
| *Брэцкая вобл.* | *— 8 працэнтаў,* |
| *Віцебская* | *— 7 працэнтаў,* |
| *Гродзенская* | *— 11 працэнтаў,* |
| *Гомельская* | *— 7 працэнтаў,* |
| *Магілёўская* | *— 9 працэнтаў,* |
| *Мінская* | *— 10 працэнтаў,* |
| *Мінск і Мінскі раён* | *— 48 працэнтаў.* |

Дарэчы, у Мінску за рэферэндум выказалася 20 працэнтаў жыхароў сталіцы, у Гародні – чацвёртая частка гараджан. Як бачна з вышэй указанага пераліку, найбольш подпісаў было сабрана па Гродзенскай вобласці, Мінску ды Мінскаму раёну. Гэтыя рэгіёны ў суме далі 60 працэнтаў ад агульнай колькасці сабраных подпісаў – больш як палова.

Што тычыцца пэўных сацыяльных груп, то найбольш актыўна "падпісвалася", згодна з інфармацыяй ініцыятыўнай групы, інтэлігенцыя. Подпісаў ейных прадстаўнікоў – найбольш. Найменш ахвотнікаў засведчыць уласнаручным подпісам падтрымку ўсебеларускага рэферэндуму знайшлося сярод былой і цяперашняй наменклатуры, работнікаў гандлю. Такую, зразумела, далёка не поўную характарыстыку прыхільнасці розных сацыяльных слаёў да збору подпісаў падала прысутным на прэс-канферэнцыі Вера Чуйко, сакратар ініцыятыўнай групы. Варта дадаць, што на ўзгаданую сустрэчу з прэсай чамусьці не завіталі асобы з Цэнтральнай камісіі па рэферэндуму.

З "факсімільнага тупіка", пагалоска пра які пракацілася хваляй па старонках амаль усіх рэспубліканскіх выданняў, ініцыятыўная група і спадар Анцулевіч выйшлі наступным чынам. Складзены дакумент, дзе Уладзімір Анцулевіч паведамляе ў прыватнасці: "...кожны падпісны ліст у падтрымку прапановы аб правядзенні рэферэндуму... з ліку тых, якія перададзены ў Цэнтральную камісію па рэферэндуму РБ разам з "Заключным актам" 13 красавіка 1992 года, завераны мною асабіста подпісам, выкананым факсімільным спосабам, узор якога наступны... пад чым падпісваюся ўласнаручна (ідзе подпіс ад рукі.– заўвага аўт.). Уладзімір Анцулевіч, старшыня Ініцыятыўнай групы рэферэндуму № 1". Подпіс сп. Анцулевіча засведчаны пячаткай Першамайскага райвыканкама г.Мінска і подпісам старшыні выканкама. Пэўне, гэта папера паставіць кропку ў прэтэнзіях Цэнтральнай камісіі і завершыць спрэчку аб правамоцнасці скарыстання "ініцыятыўшчыкамі" факсіміле подпісу Анцулевіча.

Якія ёсць шанцы таго, што Вярхоўны Савет на гэтай сесіі разгледзіць пытанне аб даце рэферэндуму?" У Вярхоўнага Савета няма іншага выйсця: ён павінен вызначыць дату правядзення рэферэндуму",– так было заяўлена журналістам. Напрыканцы сустрэчы выступіў Зянон Пазняк і звярнуў увагу на тое, што неабходна "даць магчымасць самому народу вырашыць свой лёс". Яговыя словы – ды Богу б у вушы.

Няхай незалежна ад вынікаў рэферэндуму не пацерпяць ні ягоныя прыхільнікі, ні асцярожныя назіральнікі. Няхай урэшце ўсе мы разам патрапім на шлях да згоды і заможнага жыцця. 350 тысяч – гэта 5 працэнтаў выбаршчыкаў. 446 тысяч – крыху больш. Яны дакладна паставяць "так" пад пытаннем у час рэферэндуму.

А астатнія – прыкладна 90 працэнтаў? Што думаюць яны? Усведамляюць адказнасць за лёс свой, сваіх дзяцей, усяго народа. І хоць часта спасылаліся мы на міфічны для былых часоў калектыўны розум, будзем спадзявацца, што зараз менавіта ён возьме верх.

**(Наш кар).**








- Перадача пакетаў з подпісамі.
- Прэс-канферэнцыю вядзе Вінцук Вячорка.
- Так выглядае нераспячатаны пакунак з лістамі.

Фотарэпартаж Ул. Панады.

*Да вытокаў дзяржаўнасці*

## Ад перамены месцаў складаемых...

У чатырох суседніх краінах: Польшчы, Літве, Украіне і Беларусі — гісторыя Вялікага княства Літоўскага трактуецца па-свойму, супольная спадчына, як бы "прыпісваецца" сучасным нацыям, заціскаецца ў вузкія рамкі нацыянальных інтарэсаў. І гэта можа паслужыць прычынай канфліктаў і непаразуменняў, прынамсі сярод гісторыкаў. Але не толькі, бо, як вядома, гістарычныя сентэнцыі звычайна бяруцца на ўзбраенне палітыкамі ў якасці сваіх аргументаў дзеля дасягнення часамі сумніцельных мэтаў. Такіх прыкладаў у найноўшай гісторыі абшараў былога СССР ужо шмат. Таму, безумоўна, гісторыкі павінны раней прыйсці да адзінага погляду на спрэчныя пытанні, каб застрахаваць ад непаразуменняў на гістарычнай глебе. Павінна ў рэшце рэшт пісацца гісторыя не асобных нацый, а гісторыя Усходняй Еўропы ў цэлым — такая слушная думка прагучала 7 красавіка ў Доме літаратара на прэс-канферэнцыі з нагоды падвядзення вынікаў работы міжнароднага "круглага стала" па тэме "Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім".

Аднак гаварыць аб хуткім паразуменні гісторыкаў пакуль што рана. Прынамсі на гэтае пасяджэнне вучоныя з Літвы, Расеі, Украіны запрошаны не былі. Не дапусцілі туды і журналістаў. Беларускія гісторыкі М. Біч, Г. Галешчанка, А. Грыцкевіч, М. Ермаковіч, М. Ткачоў і іншыя сумесна са сваімі польскімі, англійскімі, італьянскімі калегамі займаліся вельмі інтымнай справай — спрабавалі знесці яйка — як неаднойчы жартаваў адзін з арганізатараў "круглага стала" Адам Мальдзіс — выпрацоўвалі супольную пазіцыю па гэтаму пытанню. Бо ранейшая беларуская афіцыйная гісторыя зусім адмаўляла беларускі характар ВКЛ. Была, вядома, эміграцыя, былі вучоныя і ў Беларусі, якія лічылі зусім інакш, але афіцыйна лічылася, што беларусы ніколі не мелі ні сваёй дзяржаўнасці, ні сваіх феадалаў-прыгнятальнікаў і толькі дзякуючы бальшавікам займелі ўсё гэта...

Цяпер беларускія гісторыкі выпрацавалі пазіцыю і прынялі адпаведны дакумент, у якім абазначылі шлях беларускай дзяржаўнасці ад Полацкага княства да магутнай еўрапейскай краіны — ВКЛ, вызначылі тэрыторыі, якія тады называліся Літвою (верхняе і сярэдняе Панямонне) і Руссю (верхняе Падзвінне і Падняпроўе) і ў рэшце рэшт вырашылі, што ёсць усе падставы для вызначэння дзяржаўнасці ВКЛ як Беларуска-Літоўскага гаспадарства. "А літоўцы могуць яго лічыць літоўска-беларускім..."— вусна дадалі ўдзельнікі "круглага стала" на прэс-канферэнцыі, палічыўшы гэта за пэўны кампрамісны жэст у бок літоўцаў.

Аднак толькі ў матэматыцы ад перамены месцаў складаемых сума не змяняецца — у гісторыі бывае і інакш. Як адрэагуюць літоўскія гісторыкі на парушэнне беларусамі традыцыйнай манаполіі першых на спадчыну ВКЛ, якая замацавалася і ў маскоўскіх навуковых колах, і ў астатнім свеце? Як адрэагуюць тыя ж маскоўскія калегі, што падобна Л. Гумілёву, лічаць рускіх у ВКЛ адступнікамі ў адносінах да маскавітаў? Не бяруся адказваць. Але яшчэ, відаць, не адзін "круглы стол" спатрэбіцца, каб прыйсці да агульнага разумення, і каб пераканаць астатні свет пазбавіцца ад погляду на гісторыю цэлай Усходняй Еўропы як на гісторыю Маскоўскай Русі, а гісторыю ВКЛ — толькі як спадчыну Літвы ў цяперашнім разуменні гэтай назвы.

**Валер Каліноўскі.**

*Партыі, рухі: бег навыперадкі*

## ПНЗ. ШЛЯХАМ ЗГОДЫ

Каля 130 дэлегатаў сабралася 11 красавіка на 1-ы з'езд Партыі народнай згоды. На з'ездзе былі зачытаны даклады аб палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы, абвешчаны задачы партыі па дэмакратызацыі грамадскага жыцця, названы прынцыпы правядзення эканамічных пераўтварэнняў. Прысутныя абмеркавалі і ўнеслі дапаўненні і папраўкі ў Статут. Напрыканцы пасяджэння абраныя: старшыня новай партыі – народны дэпутат Генадзь Карпенка; старшыня кантрольнай камісіі; зацверджаны савет кантрольнай камісіі.

**Мікалай Васілеўскі.**

# КІШЭНЯ ДАБРАЧЫННАСЦІ.

## Чыя ў ёй рука?

*Напачатку былі рэдкія выпады ў бок фонду "Дзецям Чарнобыля" і ягонага натхніцеля і кіраўніка Генадзя Грушавога. Людзі, што супрацоўнічалі з фондам, ставіліся з лёгкім здзіўленнем і папросту не зважалі на іх: без звадак спраў хапае. Але зусім нядаўна газета "7 дней" ужо на поўным сур'ёзе абвінаваціла народнага дэпутата ў тым, што ён згубіў дзесьці 300 тысяч рублёў, перададзеныя яму спадаром Заўэрам — прадстаўніком нямецкага дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля", і 4 тысячы даляраў, сабраныя амерыканскімі беларусамі Кліўленда. Амаль адначасова газета "Дзеці і мы" выступіла з прэтэнзіяй да маладзёжнай арганізацыі "Нэкст стоп нью лайф", нібыта апошняя скарыстала на прыватныя патрэбы грошы, атрыманыя ад правядзення ў Заходняй Еўропе выстаў малюнкаў дзяцей з забруджаных радыенуклідамі зон.*

Артыкулы гэтыя з'явіліся ў прэсе амаль адзін за адным. Дык што, распачаўся "крыжовы паход" на грамадскія арганізацыі такога кшталту? Абвінавачванні ж сур'ёзныя... Яны ставяць пад прыцэл увесь дабрачынны рух і сумленнасць ягоных удзельнікаў. Аб узгаданых арганізацыях наша газета не раз пісала, ведае іх працу і таму, у сувязі з апошнімі публікацыямі, дзе, на нашу думку, шмат эмоцый і тэндэнцыйная, аднабаковая падача фактаў, вырашылі даць магчымасць выказацца і іх прадстаўнікам.

**Наша даведка** "Нэкст стоп нью лайф". Па іх ініцыятыве (з дапамогай асацыяцыі дзіцячай прэсы) у 1990 годзе было сабрана каля 10 тысяч твораў маленькіх мастакоў. Дзеці дасылалі лісты са сваімі адрасамі, малюнкі. Апошнія адлюстроўвалі тое, што бачылі вакол сябе дзіцячыя вочы, як успрымалі рэчаіснасць іхнія сэрцы, душы, розум. У рэшце рэшт, з дапамогаю заходніх сяброў "Нэкст стопа" былі арганізаваны выставы гэтых малюнкаў у розных краінах свету. 500 малюнкаў адправілі ў Аўстрыю, 100 — у Іспанію, 200 — у Нямеччыну і каля 1000— у Галандыю. Выставы прайшлі з вялікім поспехам. Малюнкі набывалі музеі, шыкоўныя салоны моды, прыватныя асобы. У выніку назбіралася даволі вялікая сума.

**Дзіна Міна, член каардынацыйнага савета арганізацыі "Нэкст стоп нью лайф".**

**– Што стала з гэтымі грашыма? Які іх лёс?**

— Грошы, заробленыя ў Аўстрыі, былі пакладзены на спецыяльны рахунак, адкрыты вядомым у Еўропе банкам "Баваг". За імі сачылі эксперты банка і прадстаўнікі арганізацый, якія дапамагалі нам у арганізацыі аўстрыйскіх выстаў. Пасля на гэтыя грошы было закуплена медыцынскае абсталяванне і адпраўлена ў Беларусь (Лельчыцы) па бальніцах. Грошы, заробленыя ў Іспаніі і Нямеччыне (гэта каля 23 тысяч марак), пакладзены на імя "Нэкст стопа" на спецыяльны разліковы рахунак нямецкай маладзёжнай арганізацыі "Крайс югенд рынг" і па сённяшні дзень знаходзяцца там пад наглядам афіцыйных прадстаўнікоў названай арганізацыі. Без іхняй згоды і без прадстаўлення афіцыйнага ліста (на якім трэба ўказаць канкрэтныя мэты скарыстання грошай) мы не можам атрымаць аніводнай маркі.

На грошы ж, заробленыя ў Галандыі, наша арганізацыя з дапамогай галандскай арганізацыі "Калгерол экспрэс" і беларускай арганізацыі "Эко-экспрэс" наладзіла адпачынак 86 дзяцей з Мазыра, Пінска і Лельчыц на працягу 5 тыдняў на Байкале. На гэта былі скарыстаны заробленыя ў Галандыі 5 тысяч даляраў.

**– Як вы ставіцеся да абвінавачванняў у скарыстанні грошай на ўласныя патрэбы?**

— З прыведзеных вышэй лічбаў і прыкладаў, гэта абсалютна немагчыма. У нас людзі нават працуюць бясплатна. Два штатныя супрацоўнікі, дзейнасць якіх мы лічым патрэбным аплачваць, атрымліваюць грошы ад нашых замежных калег.

**– А як Вы ставіцеся да абвінавачвання ў тым, што правядзеннем падобных выстаў-продажаў разбазарваюцца нацыянальныя багацці Беларусі?**

— Мне падаецца гэта проста смешным. Чаму на сённяшні дзень гэтыя малюнкі нікому не патрэбныя, ніхто імі не цікавіцца, ніхто не арганізоўвае ніякіх выстаў тут, на Беларусі? А калі яны трапляюць за мяжу, то чамусьці раптоўна становяцца нацыянальным багаццем. Па-другое, калі дзеці такімі сродкамі дапамагаюць адзін аднаму і самі сабе — гэта проста выдатна, бо не садзейнічае развіццю ўтрыманства, не пазбаўляе маленькую асобу актыўнасці, жыццяздольнасці, не дае засяроджвацца на хваробе. Таму, лічу, дзейнасць нашай арганізацыі — справа карысная і яе неабходна абавязкова працягваць і пашыраць.

Але размах дзейнасці "Нэкст стопа" не ідзе ні ў якое параўнанне з тым аб'ёмам дзейнасці і з тымі праблемамі, якія ставіць перад сабою дабрачынны дзіцячы фонд Генадзя Грушавога "Дзецям Чарнобыля" — вялікая арганізацыя са шматлікімі суполкамі ва ўсіх раёнах Беларусі і тысячамі ўдзельнікаў дабрачыннага руху. Каб выступіць з абвінавачваннямі ў адрас фонду — трэба мець грунтоўныя падставы. Тым больш, калі справа тычыцца ягонага кіраўніка. **А ці ёсць што адказаць Грушаваму на такія абвінавачванні?**

**– Генадзь Уладзіміравіч, як Вы растлумачыце гэты выпадак з далярамі кліўлендскіх беларусаў?**

— Сітуацыя тут асаблівая, хаця, на маю думку, вялікай складанасці і не ўяўляе. Падзея гэтая адбывалася ў 1990 годзе, калі фонд не толькі не меў свайго валютнага рахунку, але ўвогуле не ўяўляў сабой юрыдычную асобу. Таму ўсе сабраныя пад час той вандроўкі амерыканскімі беларусамі грошы я вывозіў прыватным спосабам. На тыя грошы былі закуплены лекі і медыцынскае абсталяванне, пасля адпраўленыя ў Слаўгарадскую раённую бальніцу. Пасылка наша дайшла па прызначэнню. Ад супрацоўнікаў бальніцы ў наш адрас быў дасланы ліст з падзякамі, надрукаваны пазней у "ЛіМе". Некалькі экземпляраў гэтай газеты мы адаслалі ў Кліўленд, каб прадэманстраваць, што грошы не зніклі ў бездані. Усе — і мы, і амерыканцы, і супрацоўнікі Слаўгарадскай бальніцы — былі задаволены вынікамі праведзенай працы. Безумоўна, я не магу прадэманстраваць якіясьці квіткі, што маглі б пацвердзіць мае словы. І ў тым, што гэтая гісторыя атрымала новы паварот, я магу вінаваціць толькі тыя службы, якія раней сварылі паміж сабой дзяржавы, а зараз заняліся іншымі справамі.



**– А як Вы растлумачыце выпадак з трымастамі тысячамі рублёў, якія атрымаў фонд ад спадара Заўэра з Нямеччыны (паводле ягоных слоў) на набыццё квіткоў для дзяцей, якія павінны былі прыехаць да яго для праходжання курсу лячэння?**

— Справа тут найпрасцейшая. На працягу трох месяцаў у Нямеччыне знаходзілася з дабрачыннымі канцэртамі фальклорная група "Крэсіва". Пад час іхніх канцэртаў было сабрана 60 тысяч марак. 10 тысяч з іх былі пераведзены ў рублі і пералічаны на рахунак фонду. Яны прызначаліся, згодна з дагаворам, на дабрачынныя акцыі фонду, а не на аплату квіткоў для дзяцей, што павінны былі адпраўляцца ў Нямеччыну, як сцвярджае спадар Заўэр. На гэта ў нас ёсць спецыяльныя грошы.

**– Як Вы ўвогуле ставіцеся да з'яўлення падобных абвінавачванняў у Ваш адрас?**

— Існуюць пэўныя структуры, якім гэта выгадна — дыскрэдытаваць такую актыўную грамадскую структуру, як наш фонд. Справа ў тым, што заўжды размеркаванне знаходзілася ў руках пэўных дзяржаўных органаў. Але дзейнасць нашай арганізацыі відавочна пацвярджае, што можна выдатна абыходзіцца і без іх, што свой лёс можна вырашаць самім. Атрымліваецца, што ў гэтых структур вырываюць з рук галоўную ўладу — уладу над размеркаваннем. Мы робім не толькі карысную справу тым, што адпраўляем дзяцей лячыцца за мяжу і атрымліваем пэўную дапамогу для іх з Захаду, тым, што звяртаем увагу людзей свету да праблем Беларусі, але і тым, што вучым нашых людзей праяўляць самастойнасць. А гэта, згадзіцеся, не падабаецца афіцыйным уладам.

**– Як Вы лічыце, ці магчымыя ўвогуле злоўжыванні ў вашым фондзе?**

— Наша дзейнасць увесь час знаходзіцца на відавоку. Усе арганізацыйныя пытанні вырашаюць не адзін-два чалавекі, а дзесяткі, сотні людзей. Калі б мы некага падманвалі — гэта адразу стала б вядома, і нас, нашу арганізацыю, знішчылі б тыя простыя людзі, якія вераць нам і шукаюць у нас дапамогі. Сёння ўся бухгалтэрыя вядзецца на адпаведным узроўні, не тое што раней, калі ў нас не было ні вопыту, ні, шчыра скажам, магчымасцей. Калі ласка, правярайце нас сёння.

**– Скажыце, як Вы ставіцеся да праблемы, якая ўзнікла з заводам дзіцячага харчавання, пабудаваным у калгасе імя Ламаносава з дапамогай немцаў?**

— Калі да нас у фонд год таму прыйшоў старшыня калгаса імя Ламаносава Ляхавіцкага раёна Траццяк і прапанаваў сваю дапамогу, мы былі заклапочаны толькі адным: знайсці партнёраў для пабудовы завода дзіцячага харчавання. Такім партнёрам стаў нямецкі дабрачынны фонд "Бацькі і маці супраць ядзернай пагрозы". На грошы калгаса былі пабудаваны памяшканні завода, а немцы прывезлі абсталяванне. Але раптам узніклі пытанні, над якімі мы дагэтуль не задумваліся. У прыватнасці, хто будзе гаспадаром завода, хто будзе на ім працаваць, хто, у рэшце рэшт, бярэцца сачыць за якасцю прадукцыі. Нашы прапановы на гэты конт не задаволілі нямецкі бок. Умяшаліся людзі, для якіх дабрачыннасць нейкі міф, яны хочуць мець толькі прыбытак. Для нас жа галоўнае, што фабрыка на сённяшні дзень рэальна існуе, гатова выдаваць прадукцыю, і неабходна як мага хутчэй пастаўляць яе дзецям Беларусі. І гэта павінны зразумець усе.

**Ад аўтара:** Усе артыкулы, што з'яўляліся ў друку ў апошні час і абвінавачваюць Грушавога, яго фонд і фонд "Нэкст стоп нью лайф", акрамя эмоцый, думаецца, не маюць у сабе сур'ёзнай фактуры. Але, сказаць па праўдзе, і ў словах Генадзя Грушавога і Дзіны Міны той фактуры таксама нестае. Ім і іх словам можна верыць альбо не. Толькі сёння такі час, калі проста так, на слова людзі верыць не будуць. Асабліва гледзячы на тую гуманітарную дапамогу з Захаду, якая спынілася ў камісійных кіёсках. Як яна туды трапляе? Безумоўна, і ў дабрачынных арганізацыях ёсць людзі сумленныя і тыя, хто не ўпусціць магчымасці нагрэць рукі на чужым горы. Як гэта было ў Брагіне, дзе гуманітарная дапамога, адпраўленая з Мінска, не дайшла да тых, каму яна неабходна, а паступіла ў камісійны продаж.

Грушавым і яго фондам і сапраўды зроблена вельмі шмат добрага і карыснага. Але праўда і тое, што амаль усе дабрачынныя арганізацыі Нямеччыны, што падтрымлівалі з імі сувязь, прыпынілі з фондам свае зносіны. Акрамя фонду "Дзецям Чарнобыля" ў Саксоніі. І справа, як мне растлумачылі, у тым, што Грушавой ні разу, хаця б па выніках года, не зрабіў справаздачы перад сваімі заходнімі партнёрамі: на што і куды канкрэтна пайшла іх дапамога.

Мне здаецца, што хопіць ужо абліваць адзін аднаго брудам і лаяцца. Ці не час, калі ўжо сітуацыя зайшла так далёка і стала такой сур'ёзнай, стварыць камісію на ўзроўні ўрада, каб разабрацца з усімі гэтымі пытаннямі? Людзям у забруджаных радыяцыяй зонах неабходна дапамога. І нельга, каб з-за такіх скандалаў яны страцілі надзею гэтую дапамогу атрымаць.

Зміцер Лукашук,
аглядальнік
па эканамічных
праблемах.
Тэл. 39-87-94.

# МАШЭРАЎ. Штрыхі да партрэта



*Сёлета Пятру Міронавічу Машэраву споўнілася б 74 гады, калі б не той ракавы кастрычнік 80-га года, наконт якога спрэчкі не сціхлі і дагэтуль.*

Што гэта было: звычайны няшчасны выпадак альбо палітычная акцыя? Сэрцам мы гатовы згадзіцца з першым, бо зараз і так ужо шмат брыдоты аб мінулым выносіцца на паверхню. Але ёсць факты, якія прымушаюць сур'ёзна задумацца. Пётр Міронавіч пры жыцці так і не стаў членам Палітбюро: застаўся кандыдатам. Але гэта вось-вось павінна было адбыцца. Калі б яму ўдалося пражыць яшчэ хаця б два тыдні, ён — ёсць такія звесткі — заняў бы месца Касыгіна, і, магчыма, гісторыя дзяржавы, якой зараз ужо не існуе, склалася б інакш. Як? Пра гэта нам ужо ніколі не даведацца.

З'яўленне на савецкім палітычным небасхіле такой зоркі, як Пётр Міронавіч,— вялікая загадка для нас усіх. Бо, сапраўды, у той час неяк не прыжываліся "ў вярхах" тыя, хто не быў падхалімам. Разумных палітыкаў было вельмі мала, інтэлігентных — адзінкі.

**Машэраў меў ужо пэўны імідж, калі пачалося яго ўзыходжанне. Ён быў героем апошняй вайны, смелым партызанскім камандзірам, чалавекам, пад шчаслівым знакам якога праходзілі ўдала самыя рызыкоўныя баявыя аперацыі, чалавекам, у якога з фашызмам быў свой асабісты рахунак – пра гэта пісалася і гаварылася тады шмат: маці Машэрава, Дар'я Пятроўна як партызанская сувязная была закатавана фашыстамі.**

Шмат дапамаглі Машэраву ў яго дзейнасці веданне чалавечай псіхалогіі і асабістае, ні з чым не параўнальнае абаянне. Дагэтуль Беларусь жыве ўспамінамі аб тым, як лёгка і проста ўваходзіў Пётр Міронавіч у кантакт з людзьмі, як "не грэбаваў з народам зносіцца". А з усіх фотаздымкаў Машэрава, якія траплялі калі-небудзь у друк, глядзіць на нас сімпатычны ўсмешлівы чалавек з адкрытым тварам — сапраўдны народны герой! Між тым ніякі імідж без канкрэтных спраў, што пацвярджалі б яго, не мог бы праіснаваць так доўга, як існаваў ён у выпадку з Машэравым. Аўтарытэт гэтага чалавека падтрымлівала ў большай ступені яго дзейнасць. Канешне, гады яго кіравання зусім не былі "залатым векам", як гэта хацелася б бачыць іншым з прыхільнікаў Пятра Міронавіча. Былі памылкі; былі і няўдачы. Іх, пэўна, проста не магло не быць у той час. Але эканамічна Беларусь машэраўская (хай даруюць мне гэткі нязграбны выраз чытачы) была значна мацнейшай за іншыя рэспублікі. Сацыяльны ўзровень тых гадоў — самы высокі за ўвесь паслярэвалюцыйны час. І гэта, пэўна, галоўны аргумент на карысць гэтай палітычнай асобы.

Беларусы вельмі бедавалі, калі жыццё Машэрава абарвалася. І доўгія гады пасля яго смерці памяталі толькі добрае пра гэтага чалавека, прымушаючы забыць пра іншае.

**Імя Машэрава далі аднаму з найпрыгажэйшых праспектаў сталіцы Беларусі, Мінскаму заводу аўтаматычных ліній, калгасу ў Іванаўскім раёне, СШ п.Расоны, вуліцам у Глыбокім, Давыд-Гарадку, Жыткавічах, Лідзе, Дзятлаве, Краснаполлі. У Віцебску Пятру Міронавічу пастаўлены помнік...**

Магчыма, такой папулярнасцю і пры жыцці і пасля смерці з палітыкаў XX стагоддзя карыстаўся толькі яшчэ Кенэдзі. І гэтае падабенства амерыканскага і беларускага палітычных лідэраў ужо само па сабе фенаменальнае. Нам бы ганарыцца ім. Але па апошнім часе ці "нешта няладна стала ў Дацкім каралеўстве", ці азлобленасць наша ўзнялася вышэй за дапушчальную. Камусьці падалося выгадным ачарніць памяць і гэтага палітычнага дзеяча, быццам мала яшчэ ўсім нам выкрыццяў і апаганьвання магіл.

**Ніколі, пэўна, не думаў Пётр Міронавіч аб тым, што слова "камуніст", стане настолькі непрыстойным, што любы чалавек, да якога яго можна будзе аднесці, адразу ўбачыцца вокам народа як вораг. Калі дзейнасць партыі афіцыйна была прызнана "злачыннай", іншыя пачалі падазрона прыглядвацца і да асобы Машэрава.**

Доказы "заганнасці" яго палітыкі знайсці было значна лягчэй, чым чорныя плямы на сонцы. Успомнілі і трагічную памылку з меліярацыяй, і разбурэнне вуліцы Нямігі, і "прыцясненне" п'есы Макаёнка "Дыхайце эканомней!", і, дарэчы, тое, што Пётр Міронавіч амаль не карыстаўся роднай беларускай мовай.

Але абвінавачванні гэтыя рабіліся звычайна без папярэдняга аналізу акалічнасцей, на фоне якіх было прынята Машэравым тое ці іншае рашэнне, таму не заўсёды выглядаюць этычнымі. Мала таго, да фактаў сапраўдных неяк дзіўна былі далучаны здагадкі і нават адкрытая няпраўда, якая, на жаль, пранікла ўжо і ў друк.

Якім жа чалавекам быў ён, бліскучы і папулярны палітык 70-х, Пётр Міронавіч Машэраў? Што кіравала ім пры прыняцці таго ці іншага рашэння? Паводле сведчання блізкіх яму людзей, нават асабістае жыццё Пятра Міронавіча падпарадкоўвалася яго грамадскай дзейнасці. Дома ён прыцягваў абдумваць і абмяркоўваць з роднымі справы, якія патрабавалі хутчэйшага вырашэння. Члены сям'і Машэрава разбіраліся ў тым, чым бываў заняты яе галава не горш за яго сакратароў. Паступовае палітычнае ўзвышэнне бацькі і мужа не радавала, але хутчэй выдавала неспакой аб яго здароўі і духоўных сілах, бо Пётр Міронавіч працаваў "на знос". Ён мог прыйсці дамоў вельмі позна, мог за працай забыць пра тое, што не еў цэлы дзень. Іншы раз Пётр Міронавіч прасіў у сваіх хатніх дазволу адну-дзве гадзіны пабыць у адзіноце ў сваім кабінеце, каб проста памаўчаць...

Тое становішча ў грамадстве, якое для многіх магло значыць у асноўным магчымасць атрымліваць ільготы і камандаваць да сябе падобнымі, для Машэрава перш за ўсё азначала і павышэнне адказнасці. Ён быў максімалістам і ў галоўным, і нават у бытавых дробязях. Добра гэта ці дрэнна — не нам даваць ацэнку. Але, мабыць, і максімалізм гэты ў чымсьці дапамагаў Пятру Міронавічу адстойваць інтарэсы Беларусі ў партыйных вярхах...

Калі ўважліва пачнеш углядвацца ў тое, што робіцца зараз з духоўным светаразуменнем былога савецкага чалавека, становіцца страшна. Як зваротную ліхаманку, некалькі разоў перажывалі ўжо наша грамадства, наш народ хваробу забыцця, адмовы ад сваіх ідэалаў і ад герояў—насіцеляў іх. Але народ не можа ўяўляць сябе паўнацэнным без нацыянальных герояў. Толькі таму замест скінутага з п'едэстала будзёнаўца на тым жа месцы з'яўляецца рамантычны есаул-белагвардзеец. Але ці заўсёды мы зможам адшукаць раўнацэнную замену знішчанай святыні. Дык, мабыць, трэба задумацца, перш чым здраджваць сваёй памяці?

Напалеон загубіў у вайне з Расіяй цвет французскай нацыі, але ён — нацыянальны герой Францыі, Кромвель запэцкаў рукі крывёй свайго караля, але англічане шануюць яго і ганарацца ім. Калі б гэтыя асобы былі народжаны нашай зямлёй, мы б даўно ўжо знеслі б іх помнікі і апаганілі іх магілы.

Пра гэта трэба не забываць, які б выкрывальны азарт ні авалодваў бы намі.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА.



АДНОЙ З АДМЕТНЫХ РЫС літаратуры і мастацтва еўрапейскага сярэднявечча з'яўляецца тое, што сярод бясконцага спісу славутых мужчынскіх імёнаў вельмі рэдка сустракаюцца жаночыя. З канца XYII – пачатку XYIII стагоддзяў гэтае становішча істотна мяняецца. У дакументах тых часоў мы знаходзім успаміны пра жанчын–літаратараў, мастакоў, філосафаў, артыстаў, музыкантаў. Іх творчасць дзіўнымі духмянымі кветкамі ўплятаецца ў вянок, сатканы з імёнаў славутасцей ад мастацтва. Паэтэса Луіза Лабэ... Мастачка Анжэліка Каўфман... Спявачка і кампазітар Ганна Магдалена Бах... Філосаф і навуковец Кацярына Дашкова... Драматург Урсула Радзівіл...

Іх прыход у сусветную гісторыю, як і з'яўленне ў ёй постацей іх шматлікіх сучасніц, быў падрыхтаваны шэрагам суб'ектыўных прычын, звязаных і з гісторыяй іх краін, і адной вялікай аб'ектыўнай: атрыманне Еўропай новых ведаў, якія былі звязаны са шматлікімі навуковымі і геаграфічнымі адкрыццямі XYIII стагоддзя.

Гонарам беларускай літаратуры таго часу з'яўляецца яркі талент пісьменніцы Францішкі Урсулы Радзівіл. Ён яшчэ па-сапраўднаму не ацэнены, не асэнсаваны намі да канца.





# КНЯГІНЯ-ДРАМАТУРГ

Нарадзілася Францішка Урсула ў 1705 годзе ў сям'і прадстаўніка княскага роду Вішнявецкіх. Атрымала бліскучую адукацыю. Да таго ж ад прыроды мела літаратурныя здольнасці. Пры знаёмстве з яе партрэтамі адразу звяртаеш увагу на розум, які свеціцца ў вачах гэтай жанчыны. На высокі лоб, наўмысна ніколі не прыкрываемы валасамі. На тое, што адзенне яе хоць і багатае, але вельмі сціплае, што яна не зацягвае сваё цела, занадта пышнае, каб адпавядаць густам таго часу, у жорсткі гарсэт. Адразу зразумела, што для яе галоўнае — не пагоня за ўсімі бязглуздасцямі і недарэчнасцямі моды, а набыццё каштоўнасцей духоўных. Урсула з самага дзяцінства вызначаецца са свайго наваколля незвычайнай дапытлівасцю і начытанасцю. У яе характары гарманічна спалучаліся з аднаго боку прага да ведаў, а з другога — набожнасць. Яшчэ ў дзіцячым узросце яна пачала пісаць вершы, якія не маглі пакінуць раўнадушнымі тых, хто іх чуў. Вершы гэтыя пісаліся на польскай мове, бо пераважна польскамоўным было наваколле сям'і Вішнявецкіх. Магчыма з-за прагі да літаратурнай дзейнасці, да ведаў бацькі не прыспешвалі Урсулу з замужжам. Яны пакідалі ёй час для развіцця таленту. Да таго ж Вішнявецкія жадалі ўручыць жамчужыну сваёй сям'і самаму дастойнаму і санавітаму з прэтэндэнтаў.

Францішка Урсула выйшла замуж у дваццацігадовым узросце. Яе мужам стаў князь Міхаіл Казімір Радзівіл, які насіў мянушку Рыбанька. Урсуле вельмі падабаўся яе малады і прыгожы муж. Яна раўнавала яго да ўсіх харошанькіх жанчын. Для таго, каб больш прывязаць мужа да сябе, яна выкарыстоўвала ўсё сваё абаянне. У чым жа яно заключалася? Канешне, у розуме і літаратурным таленце. Рыбанька часта адлучаўся з Нясвіжа (куды адразу пасля вяселля перавёз маладую жонку). Тая ж літаральна засыпала яго пісьмамі. А пісьмы гэтыя былі вершаванымі і настолькі цудоўнымі, што муж захаваў іх усе да аднаго. Значна пазней яны былі выдадзены асобнай кніжкай, якая так і называлася "Пісьмы да мужа".

Трэба заўважыць, што Міхал Казімір з'яўляўся таксама высокаадукаваным чалавекам. Ён добра разумеў, якім скарбам валодае, і таму рабіў усё магчымае, каб Урсула адчувала сябе шчаслівай. Рэўнасць маладой жанчыны была дарэмнай. Міхал Казімір не прамяняў бы яе, разумную і таленавітую, ні на адну прыгожанькую дурніцу.

У хуткім часе ў іх з'явіўся сын Мікалай Крыштаф. Але праз два гады ён захварэў і памёр. Для Урсулы гэта была велізарная трагедыя. Яна доўга бедавала. Але нават такія перажыванні выліліся не толькі ў слёзы, але і ў вершы. У гэтай сітуацыі зноў яна праявіла сябе як высокаінтэлектуальны чалавек. З нагоды смерці свайго першынца Урсула напісала цэлы цыкл вершаў.

Наогул, гэтую сям'ю бы напаткаў рок. У дзіцячым узросце памірае і другі сын Урсулы і Міхала Януш Тадэвуш. Трэцяе дзіця — Караль Станіслаў — расло хваравітым хлопчыкам. Бацькі вельмі баяліся страціць і яго. Яны прыставілі да спадчынніка роду не толькі кучу цудоўных выхавальнікаў і настаўнікаў, а і некалькі лекараў. Міхал Казімір у час адной са сваіх паездак сустрэўся з незвычайнай парай. У Расію накіроўвалі свой шлях былы турэцкі палонны (аўстрыец па паходжанню) прапаршчык Фартунат Піхельштэйн і жанчына, якая выкупіла яго з палону. Прапаршчык у знак падзякі ажаніўся на ёй. Звалі гэтую жанчыну Саламея Русецкая. Яна была ў свой час ужо вядомай лекаркай. Рыбанька, які шмат чуў пра здольнасці гэтай жанчыны, вырашыў, што было б цудоўна атрымаць такога лекара для свайго сына. Ён прымае маладую пару да сябе на службу. Фартунат прызначаецца харунжым, а Саламея — "доктаркаю". Князь забірае маладую сям'ю ў Нясвіж. Урсула адразу звярнула ўвагу на новую лекарку. Ды і не дзіва. Саламея шмат дзе пабывала, шмат пабачыла. Яна была цудоўнай расказчыцай. Гаспадыня Нясвіжа дзівілася характару гэтай жанчыны. Саламею вызначалі рашучасць, упартасць, схільнасць да авантур. Яны былі поўнай процілегласцю адна адной. Што больш за ўсё магло прываблiваць Урсулу? Хутчэй за ўсё кіпучая прага да дзейнасці, актыўнае ўспрыняцце рэчаіснасці. Менавіта гэтымі якасцямі так вызначалася новая яе знаёмая. Саламея таксама не магла не зацікавіцца гаспадыняй Нясвіжа. Здавалася, што жанчыны знайшлі адна адну, што паміж імі ўсталяваліся блізкія адносіны, але... Саламея Русецкая знікла. Яна пакінула маленькую дачку ў бенедыкцінскім кляштары і накіравалася ў Санкт-Пецярбург. Лекарцы стала проста-напраста сумна на адным месцы. Да таго ж яна прывыкла лекаваць адна. Для яе не існавала іншых аўтарытэтаў. А тут цэлы "кансіліум".

Такія паводзіны вельмі пакрыўдзілі Урсулу і Рыбаньку. Хутка ў Міхала Казіміра з'явілася магчымасць прыгадаць Саламеі яе непрыгожы ўчынак. Прыкладна праз палову года яна вярталася з Расіі ў Турцыю. Яе шлях ляжаў праз Беларусь. Гетман (Рыбанька ў той час займаў пасаду гетмана вялікага літоўскага) перахапіў "бяглянку" па дарозе і не дазволіў ёй выехаць у Турэцкую імперыю. Радзівіл накіраваў яе служыць да мужа на Палессе ў вёску Ляхва (на тэрыторыі сучаснага Лунінецкага раёна). Але Саламея змагла збегчы і адтуль. Нагода, якая дала ёй магчымасць выехаць за мяжу, была простай і арыгінальнай. Русецкая накіравалася да родных мужа, каб атрымаць грошы, якія яна выкарыстала на выкуп яго з турэцкай няволі.

А крыху пазней сям'ю Радзівілаў зноў напаткала бяда. Васьмігадовы Караль Станіслаў захварэў на воспу. Якімсьці цудам яго выратавалі. Але лекары забаранілі вучыць яго чаму-небудзь. Яны баяліся, што перанапружанні, звязаныя з вучобай, канчаткова падарвуць слабы арганізм. Гэты хлопчык і да таго быў моцна разбалаваны ўсеагульнай увагай, а тут наогул "згультаіўся". Шмат намаганняў давялося прыкласці і настаўнікам, і бацькам, каб іх дзіця не вырасла такім жа, як герой п'есы Д. Фанвізіна "Недаростак". Для ажыццяўлення гэтай справы быў выкарыстаны нават аматарскі тэатр, які існаваў пры іх двары.

Захапленне Радзівілаў тэатрам, мяркуючы па ўсяму, пачалося ў 1740 годзе. Менавіта ў той год іншаземная трупа паставіла ў Нясвіжскім замку п'есу "Прыклад справядлівасці". У далейшым пастаноўкі праводзіліся сваімі сіламі. Спачатку паказвалі камедыі Мальера, "Заіку" Вальтэра, творы іншых еўрапейскіх аўтараў. Прыдворны тэатр быў аматарскім. У спектаклях разам з прыгоннымі спевакамі, танцорамі, музыкамі ўдзельнічалі члены княскай сям'і, шляхта, выхаванцы кадэцкай школы, якая існавала тады ў Нясвіжы. П'есы першапачаткова ставіліся або ў замку, або ў прыгарадзе Нясвіжа Альбе, або ў гэтак званым "зялёным" тэатры. Тэатр гэты, які меў назву "Кансаляцыя", знаходзіўся за замкавым ровам. Адным бокам ён выходзіў на гарадскі рынак, другім — на пагорак. На адным са схілаў гэтага пагорка абсталявалі месцы для гледачоў. На іх магла размясціцца тысяча чалавек. Фактычна гэта быў першы стацыянарны тэатр на тэрыторыі Беларусі.

Радзівілаўскі тэатр набыў шырокую вядомасць у Рэчы Паспалітай. Але найбольш поўным жыццём пачаў ён жыць пасля 1746 года. Менавіта тады кіраўніцтва ім узяла ў свае рукі Францішка Урсула Радзівіл. Тады ж яна пачала пісаць камедыі і трагедыі. У далейшым на працягу ўсяго яе жыцця нясвіжскі тэатр ставіў галоўным чынам п'есы свайго кіраўніка альбо яе пераробкі французскіх камедый і трагедый. Для сваіх твораў княгіня выкарыстоўвала сюжэты са славянскіх паданняў, твораў антычных аўтараў, зборніка арабскіх казак "Тысяча і адна ноч". У некаторых з яе п'ес з'яўляліся турэцкія матывы. Апошнія, магчыма, былі навеяны ўспамінамі аб прыгодах Саламеі Русецкай і аб яе расказах, якія калісьці так хвалявалі Урсулу.

Ва ўсёй Еўропе тых часоў п'есы мелі павучальны характар. Бачым мы гэта і ў творах Францішкі Урсулы. Так, напрыклад, у камедыі "Каханне — Ідэальная майстрыха" расказваецца пра сына Дэмакрыта Галезія. З трох сыноў Дэмакрыта толькі ён грэбаваў навукай. Бацька, які саромеўся невука-сына, адаслаў яго ў вёску. Там юнак быў прызначаны пастухом. Аднойчы Галезій убачыў прыгажуню, калі тая спала на лузе. Юнак адразу закахаўся. Але разбуджаная ім дзяўчына збегла. Ёй не падабаліся манеры новага знаёмага. Перад тым, як знікнуць, яна выказала юнаку ўсё, што думае пра яго. Галезій ледзь не "згарэў" ад сораму. Ён вырашыў дабіцца рукі каханай. Пачаў вучыцца. Наняў сабе процьму настаўнікаў. Дзякуючы ўзаемным намаганням Галезій вельмі хутка засвоіў усё неабходнае. Ён бы перарадзіўся. І вось (амаль як у амерыканскіх кінафільмах) — "Хэпі энд" — шчаслівы канец. Выхаваны і адукаваны юнак з'яўляецца перад каханай. Поспех яму забяспечаны. Без сумнення ў першую чаргу гэта камедыя была разлічана на Караля Станіслава. Той даўно перарос сваю хваробу і ператварыўся ў здаровага бэйбуса. А вось вучыцца асаблівага жадання не меў. Магчыма, гэты "тонкі намёк" рабіўся і для іншых дзяцей княгіні. А ім вельмі падабалася ўдзельнічаць у спектаклях. Асабліва гэта датычылася дачкі Тэафілі. Яна ўся аддавалася ролі. Здавалася, што дзяўчына "прымярае" яе на сабе, бо жыве жыццём сваіх гераінь. Шэрах жаночых роляў былі, пэўна, напісаны маці менавіта з разлікам, што выконваць іх будзе Тэафіля. З дзённіка Рыбанькі вядома, што ў 1758 годзе яна іграла ў п'есе "Каханне нараджаецца з погляду". А значна пазней, у 1764 годзе, гэта дзяўчына ўдзельнічала ў бітве, якую Караль Станіслаў Радзівіл даў пад Слонімам удзельнікам Літоўскай канфедэрацыі. У гэтай бітве вызначыўся сваёю мужнасцю бедны юнак Ігнацы Мараўскі. Яго адвага зачаравала дзяўчыну. Тэафіля праз восем дзён пасля гэтай бітвы згадзілася стаць жонкай Мараўскага.

Многія творы княгіні мелі іншы аб'ект для маральнага ўздзеяння. Гераіні шматлікіх напісаных ёю камедый і трагедый — ахвяры мужчынскага падману. Гэта пяшчотныя, цудоўныя істоты, якія пакутуюць ад вераломства каханых. Яны самаахвярна кахаюць сваіх мужоў. Тыя ж здраджваюць ім пры першай магчымасці. Пра зместы гэтых п'ес сведчаць і іх назвы "Несумленнасць у пастцы", "Дасціпнае каханне", "Суцяшэнне пасля турбот", "Каханне — Ідэальная майстрыха" і да іх падобныя. Францішка Урсула, як адзначалася вышэй, вельмі раўнавала свайго мужа, які вельмі часта адсутнічаў у Нясвіжы. Яго пастаянныя раз'езды па службовых, ды і не толькі службовых, справах вельмі хвалявалі яе. Зместам гэтых твораў княгіня жадала запэўніць мужа, што сямейная вернасць заўжды атрымае ўзнагароду ад лёсу, а здрада будзе жорстка пакарана.

Падзеі гэтых п'ес адбываліся ў сівым мінулым, альбо ў далёкіх экзатычных краінах. Але гледачы (гэтак жа, як і ўдзельнікі) цудоўна разумелі ўсё. Ды і нядзіўна, бо, напрыклад, у розных "антычных" і "ўсходніх" п'есах прыгадваецца звярынец. А ён — вось жа, нездалёк ад Альбы. Дзяўчаткі збіраюць зёлкі на лузе — ці не для нясвіжскай аптэкі? Палац, які размешчаны за горадам і ля якога зроблены крэслы з дзірвану — ці не Альба гэта і ці не "зялёны" тэатр?

Урсула знаходзілася ў гэты час у росквіце творчых сіл. Яна паспрабавала свае магчымасці нават у напісанні оперных лібрэта. Гэта было нашмат цяжэй, чым пісаць пісьмы-вершы ці тыя ж п'есы. У той час оперы былі больш падобны на сучасную аперэту. Арыі, ансамблі і хоры перарываліся празаічнымі дыялогамі. Нярэдка адна з дзей оперы была цалкам танцавальнай.

Хвалявалі княгіню і іншыя справы. Дзякуючы ўплыву, які аказвала яна на свайго мужа, Урсула спрыяла развіццю Нясвіжа. Яна падгаварыла Рыбаньку, каб ён адшукаў і загадаў аднавіць забытую замкавую друкарню. Дабілася, каб гэта друкарня дзейнічала і выпускала кнігі. Магчыма, менавіта ў ёй выходзіла газета, рэдактарам якой была пані Радзівіл. Дакладна вядома, што ў ёй гравёр Гірш Лябовіч выдаў унікальную нават у тыя часы "Кнігу партрэтаў Радзівілаў". Гаспадыня замка клапацілася аб павелічэнні багаццяў замкавай бібліятэкі. Пры ёй кніжны фонд бібліятэкі вырас да 20 тысяч тамоў. Гэта па яе жаданню ў 1748 годзе на беразе аднаго са штучных азёр, якія размешчаны на рацэ Уша, была ўзведзена спецыяльнае памяшканне тэатра — "Камедыхаўз".

Францішка Урсула Радзівіл магла б, без сумнення, зрабіць яшчэ больш. Але лёс вызначыў ёй кароткае жыццё. У 1753 годзе Урсула памірае. Але прыхільнікі яе таленту не далі забыццю паглынуць імя кіраўніцы тэатра і драматурга Ф.У.Радзівіл. Адзін з акцёраў-аматараў, які жыў у Нясвіжы, сабраў усе драматычныя творы Урсулы і ўжо ў наступным годзе пасля яе смерці выдаў асобнай кнігай. Зборнік быў упрыгожаны гравюрамі М.Жукоўскага. У яе ўвашлі 16 п'ес і 7 лібрэта.

Не забыта Францішка Урсула і ў нашы часы. Яе імя сустракаецца і ў энцыклапедыях, і ў працах, якія прысвечаны гісторыі беларускага тэатра, і ў краязнаўчай літаратуры. Здзіўляе толькі адно — чаму мы і ў гэтым выпадку "дорым" суседзям тое, чым па праву можа ганарыцца наш народ. Чаму ў большасці з гэтых прац, да прыкладу, у чацвёртым томе "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва", аб ёй гаворыцца "польская пісьменніца". Адкуль узялі гэта "польскае" яе паходжанне? З якіх часоў прадстаўніца ўкраінскага княскага роду Вішнявецкіх, якая нарадзілася на Валыні і амаль усё самастойнае жыццё правяла ў Нясвіжы, стала полькай? Можа, гэта з-за таго, што яна пісала свае творы на польскай мове? А кім тады лічыць вялікага рускага паэта А.С.Пушкіна? Ён жа першыя свае вершы пісаў па-французску. Гонар беларускай літаратуры Уладзімір Караткевіч па-руску пісаў першыя свае вершы. А Міколу Гусоўскага кім лічыць? Старажытным рымлянінам? Яго ж "Песня пра зубра" напісана на латыні. Калі ж, урэшце, мы ўспомнім пра тое, што і на зямлі беларускай квітнела культура? І што была гэта культура не польская, не руская, не нямецкая, а свая, беларуская? Хто адкажа?

Мікола Багадзяж.



## Наша анкета

*1. Чым жывеш сёння? Што лічыш патрэбным дзеля таго, каб сцвердзіць сябе як творца (талент, жыццёвы вопыт, інш.)?*

*2. Што замінае табе быць самім сабой? Твае адносіны да шматлікіх сённяшніх партый, лідэры якіх імкнуцца стаць новымі духоўнымі пастарамі нашых людзей, у тым ліку і моладзі.*

*3. Твая запаветная мара. Над чым працуеш? Што табе дае суполка "Крыніцы"?*



### Аксана Данільчык:

1.

а) Тым жыву, чым і ўчора – сабою.

б) Жыць і бачыць.

2.

а) Сабою быць не замінае нічога. А ўмовы жыцця не заўсёды залежаць ад мяне.

б) Я згодна з высновай рамана Ф.Дастаеўскага "Д'яблы".

3.

а) Аб запаветнай мары не гавораць. Інакш яна не будзе запаветнай.

б) Над пачуццямі. Паглыбляюцца пачуцці – мяняецца свет. Астатняе – як вынік.

в) Дзякуючы "Крыніцам" трапіла на семінар маладых літаратараў "Іслач-90". А ўвогуле наша суполка – гэта маленькі сусвет, дзе ўтульна кожнаму таленту, бо яго і разумеюць, і абуджаюць на рост.



### Сяржук Мінскевіч:

1.

а) Паветрам. І спадзяюся, што ў будучым яшчэ нешта будзе чым жыць.

б) Зараз вельмі складана сцвердзіць сябе як творцу, асабліва ў літаратуры, бо эканоміка зжэрла асноўны матэрыял, носьбіт думак літаратара – паперу. Таму вымушаны пісаць у стол, працую на будучыню. А альтэрнатыва – чарга, дэвіз якой гучыць прыкладна так: кожнаму пісьменніку па рулону паперы да 2000 года.

Творца толькі тады творца, калі ў яго ёсць талент. Вопыт прыходзіць з часам. Але часам навучаны вопытам чалавек не хоча цалкам адкрываць (агаляць) свой талент. Бо талент, на маю думку, вельмі ранімая частка душы чалавека, і жыццёвы вопыт, як абаронца, часта не дазваляе ісці супраць усталяванай традыцыі.

2.

а) Я і ёсць Я. Вялікае няшчасце, калі чалавеку штосьці замінае быць самім сабой.

б) Добра, што ў нас ужо з'явілася шмат партый, значыць верагоднасць дыктата зменшыцца. А да лідэраў адносіны такія – калі ён гаворыць лухту, я абураюся і крычу ў тэлевізар: "Лухту малоціш, дабрадзей!". Калі ён кажа нешта разумнае, шмат разумнага, я пачынаю яго паважаць. А шчыра – я заўсёды крытычна стаўлюся да слоўных штукарстваў нашых палітыкаў.

3.

а) Мая заветная мара – знайсці задавальненне ад жыцця. Але на ўзроўні творцы. А што ўваходзіць у гэтае паняцце – з аднаго боку, дык гэта мой "памятник нерукотворный" (творчасць), а з другога – жыццёвы, але дзейны спакой: мая каханая жонка, мае карапузяткі і, можа, яшчэ чорны лімузін, ружовы самалёт, белая яхта ці асабісты касмічны карабель... Во!

Будучыня... Фантастыка... А пакуль...

Паклаў Мінскевіч галаву на рэйкі ў метро, чакае.

Усе вакол сабраліся, крычаць: "Вар'ят! Самазабойца!".

А Мінскевіч ляжыць, чакае.

Паказаўся цягнік.

Мінскевіч ляжыць, вачыма ўздыхае.

Цягнік ужо на станцыі грукоча...

Мінскевіч перад самымі коламі – скок на платформу!

– Фу, – кажа, – як цудоўна!

– Што цудоўна?.. – пытаюцца.

– Цудоўна, што цягнік не зарэзаў.

І пайшоў Мінскевіч са станцыі з вялікім задавальненнем ад жыцця.

б) Працую над кнігай гумарыстычных апавяданняў. Пішу сцэнар фільма. Узношуся, падаю і разбіваюся разам з вершамі.

в) "Крыніцы" і выступленні перад аўдыторыяй з крынічанцамі далі мне самаўпэўненасць, веру ў сябе, у творчы працэс на Беларусі і ў сілу нашай моладзі.

Жадаю кожнай творчай асобе мець такое чароўнае праціґультайскае крэсла, якое пакуль штосьці здатнае не напішаш, не адпусціць.



## Постаці літаратуры

### Ніл Гілевіч

* * *

*"Падыміся над бядой і болем,*
*Калі ты не кволы чалавек..."*
*Я — не волат. Я бываю кволым.*
*Часам слёзы блеснуць з-пад павек.*
*Над сваёй бядой, сваёй загубай*
*Я ўздымуся... Ды не дай ты Бог*
*Каб над болем Бацькаўшчыны любай*
*Я падняцца калі-небудзь мог!*

**Фота Уладзіміра КРУКА.**



### Алена Танана

* * *

...баюся хцівасці,
драпежнасці –
такая кволая,хаця
і прывыкаю
з непазбежнасцю
да непазбежнасцяў жыцця...
Удзень з нягодамі ды бедамі
ўжо неяк зладжу.
А ўначы
я ўсё яшчэ лячу над безданню,
заснуўшы на тваім плячы.

* * *

Родны голас пакліча
здалёку,
І паверу ў прывіднасць мар –
палячу да вясновых аблокаў...
А ў дарозе
сустрэне зіма,
і зусім нечакана – самота,
і такі недарэчны адчай,
дзе бязмежнае неба пяшчоты
з-за твайго выглядала пляча!..
Па-ранейшаму сняцца нябёсы.
Ды не будзе вальней ці лягчэй,
калі зноў узнясе мяне лёсам
да сінечы забытых вачэй.
... І тады пахаваліся птушкі.

**Максім Багдановіч.**
**Ялта**

Спякота, млявасць
летніх дзён.
Аж цяжка словы разам скласці...
Жыццё няўлоўнае, як сон.
Радкі каротkія,
як шчасце.
А за вакном – ні вецярка,
ні воблачка нідзе не бачна...
Чыя бязважкая рука
прыемна студзіць
лоб гарачы?
Над выраем юнацкіх мар
узняўся прывід Вострай Брамы...
...паперы спалатнелы твар,
і кроў на ім,
нібы атрамант.

* * *

Непаглядная цемра...
Гэта калі страшна ступіць
хоць яшчэ адзін крок?
Ці калі закрываеш вочы ў адчаі,
бо гэта нясцерпна,
нясцерпна?..
Можа, боль той, апошні,
ці тое, што будзе пасля –
толькі Вечны Змрок?
Ну, а раптам
Спрадвечнае Свята Святла
па-за межамі вызначэння,
што ж такое яно –
непаглядная цемра?
Барані цябе Бог
ад магчымасці тлумачэнняў,
хай сабе і прыблізных,
бо я знаю напэўна:
немагчыма даведацца,
можна толькі што зведаць...

* * *

Спеў –
гэта зусім не тое, што чуеш,
а тое, што пяецца само,
блага табе ці добра,
весела ці сумна.
Калі не трэба запамінаць
мелодыю,
і яна сама вядзе цябе туды,
куды захочаш.
Гэта і ёсць спеў.
Вы скажаце,
што тады і зрок нам дадзены
не на тое, каб глядзець навокал,
а каб у сваіх уласных вачах,
зазірнуўшы,
пабачыць самыя адмысловыя
карціны?
І я пагаджуся з вамі!
Тады вы спытаеце:
навошта ж нам усё астатняе?
Вам цікава?
Я таксама
часта пра гэта думаю...

* * *

Ад музыкі
заўжды
так блізка да тугі.
І гукі вабяць зноў,
як вабіць вір глыбокі...
Дзве зоркі на вадзе злучаюць
берагі.
Лунае ўспамін,
і слёзы недалёка.
А музыка грахі змывае з душ і дум,
і перад ёй сляпы
і недарэчны розум...
Я да цябе ізноў шчаслівая іду...
Чаму ж самотна так,
чаму так блізка слёзы?



### Віталь Замураеў

## ТРЫЯЛЕТЫ

* * *

Не цябе я называў сваёю,
Не табою трызніў па начах,
Адбіваўся не ў тваіх вачах;
Не цябе я называў сваёю.

Бог дарые. Толькі ў сэрцы жах,
Толькі сэрцу не знайсці спакою:
Не цябе я называў сваёю,
Не табою трызніў па начах.

* * *

Жыцця майго завеі і адлігі
Адбіліся на твары і ў душы.
У споведзь дзён, мой Божа, запішы
Жыцця майго завеі і адлігі.

Ізноў я ўсё былое ўзварушыў;
Нібыта слёзы сумнай, шчырай кнігі,
Жыцця майго завеі і адлігі
Адбіліся на твары і ў душы.

* * *

Усё яшчэ твая гарыць усмешка
Агеньчыкам няспраўджаных надзей.
Хоць сам я і ўсміхаюся радзей —
Усё яшчэ твая гарыць усмешка.

Хай дні бягуць у хуткай чарадзе,
Хай зарасла ўжо ў нашу восень сцежка,
Усё яшчэ твая гарыць усмешка
Агеньчыкам няспраўджаных надзей.





Алесь ПАШКЕВІЧ

## Апакаліпсіс

Праламаўся чарэн усёбачнай Галгофы,
і вулканам прарваўся абуджаны гнеў.
Галубамі з каўчэга* на Божы пасеў
паляцелі мае ўратаваныя строфы...
Ускалыша й расколе шляхі землятрус,
і тады мірыяды агністых вугольляў
пахаваюць навекі маю Беларусь...

...У апошнюю ноч людалюбны Ісус
прыбіваецьме нябёсы цвікамі сузор'яў.

* Біблейскі каўчэг Ноя.

## Ворагам

Вы не параніце каня:
на ім шчэ стрэмя.
Яшчэ разбудзіць ранак дня
адважных племя.

Вы не астудзіце мяча:
гарыць крывёю
лязо сталёвага пляча,
бы вочы воя.

Вы не прымусіце мяне
закрыць ілбіцу*.
Абманам сэрца не міргне.
Згарыць зарніца...

Калі ж душа аб стогн грудзей
скрывавіць крылы,
я не хачу, каб плач людзей
кранаў магілы...

* Ілбіца (прылбіца) – металічнае прыстасаванне на шлеме рыцара для прыкрывання твару.

* * *

*"...мова — адзежа душы".*
*Францішак БАГУШЭВІЧ.*

Разбіла поўня бубнам ціш
на сценах хмарных веж.
Маркота-драч, чаму не спіш,
палотны злосна рвеш?

Сутану цёмную нябёс
прапаліць сонца жар.
Рачулкі сівавокіх слёз
не вымыюць абшар.

А на грудзях зямлі драчы
ірвуць кашулю траў.
Хто, беларус, з тваёй душы...
і вопратку сарваў?

* * *

З пячорнае похвы дастану
маланкі зашчэрблены нож
і попел рассыплю на рану,
па снезе прайду басанож.

Крывёй саблезубага звера
у ярасці вочы гарацъ.
У смерці — ільвіная вера,
і з ёй ненажэрная раць.

Мне сыра ў пячоры, а замкі
паўсюль занялі чужакі.
Я рвуся і сілюся ў дамкі,
ды сябра не бачу рукі.

А чорт з чалавечага роду
смяецца да сочыўных слёз,
глытнуўшы з лілейнага спода
крынічны кавалак нябёс...

## Жаданні

Я хацеў адкрыць вочы —
асляпілі іх жахі.
Я хацеў уздыхнуць —
разарваліся грудзі.
Я хацеў адзіноты —
неба згрызлі мне дахі.
Я хацеў пакахаць —
ссурочылі людзі.
Я хацеў гаварыць —
загубіліся словы.
Я хацеў памаўчаць —
сэрца трызніла воляй.
Я хацеў недажыць,
каб пакутаваць болей...
Я аддаўся журбе,
перажыўшы сябе.

## На Купалле

Агонь праменіць светач ночы,
у цноце рэчкі тонуць вочы.
І мы з табою доўжым свята.
Духмяніць і чаруе мята...

Вянок абдымка, збіўшы росы,
расквеціць нам світанак босы.
Падушка траў Купаллем змята,
духмяніць і чаруе мята...

Успыхнуў сцягам сонца ранак.
На пералесак, як на ганак,
змятае змрок лясная хата.
Духмяніць і чаруе мята...

Схмялела ноч напоем зёлак,
на вуснах усміхнуўся золак.
А сэрцы нашыя заўзята
духмяніць і чаруе мята...

## Цвік у столь

*Прысвячаю Сяргею Палуяну і Сяргею Ясеніну*

Цвік у столь...
Праз разбітае шкло
холад грудзі кране.
Стаў цягнік,
і жыццё адышло
ў шматкрап'е крыві на вакне.

Пульс крыві.
Драцяная пятля
шыю лашчыць іржой.
Ціш у роце,
званок-немаўля
скрыжаванню сплятае павой.

Шпалаў бег.
Пераезд праляцеў
семафораву сінь.
Стань пабліз,
хто такога хацеў,
і пад колы няўпэўненасць кінь...

* * *

*СІМВАЛІСТАМ*

Акна абман, мярцвяк-камін,
сухі вазон, счарсцвелы блін,
згарэлы стос, паперы гук,
на крэсле пыл, у дзверы стук.

Нябесны попел, сведка-ноч,
ліхтарняў крык: "Ідзі, не зноч!".
У мроях дня — жывы ланцуг
цяжарных хмараў-валацуг.

Ціскі шпалер, высокі дах,
пакуты венаў, газы пах.
Удар... Акно без шкла, балкон...
Кіно, дзе сон і гэты скон.



## Акраверш Карусю Каганцу

Калі з апошняй сілаю ганца
Агорне дзень у боскім цудзе,
Гаротны шлях падыдзе да канца,
Агонь святы гарэць паходняй будзе.
Народзіцца з вугалля сын Карусь
Цямрэч прарваць святлом ад каганца,
Узняць з нябыту маці-Беларусь...



Кастуусь ВОРСІН

# Апошні...

*НАВЕЛА*

Старая хата білася ў перадсмяротных здрыготах. Аб'імшэлая страха, нахіліўшы саламяныя космы, трэслася, нібы чупрына хворага на ліхаманку. Амаль усе вокны ўжо згубілі шкло, і толькі адна ацалелая шыбка скардзілася, жалобна звінела.

Старасвецкі сасновы зруб трымаўся. У свой час яго будавалі на вякі, і, не глядзечы на гады, бульдозер не мог адразу ўзяць яго. Дыхаючы сінім дымам, ікластая пачвара ўпівалася ў жывое цела сцяны. Ужо заставалася нядоўга...

У падвале канаў дамавік. Усё навокал трымцела і варушылася. Зваліўшыся з паліцы, гучна лопнуў гляк. Па зарослай здубелай шчацэ каціласл сляза.

Ён шмат пражыў. Прашчур апошняга гаспадара заклаў першы вянец, і тады ён з'явіўся на свет. Ён шмат памятаў. Памятаў кожнае вяселле: у доме грала музыка і, амаль як зараз, трымцела ад скокаў падлога. Ён памятаў усіх гаспадароў – амаль кожнага ў свой час люляў у калысцы, наводзіў уночы сны. Памятаў, як прыходзілі тыя з працы – стомленыя, але вясёлыя і добрыя – і чысціў спрацаваных коней, адводзіў ад іх стому. Памятаў вясёлую вёску, Купалле, калі ўсе яны – дамавікі, лесуны, русалкі і мноства іншай драбязы, – нябачныя, бегалі разам з людзьмі па лесе, галёкалі, пяялі, а потым з гушчару глядзелі на сапраўдную Папараць-кветку – купальскае вогнішча.

Але памятаў ён і іншае. Памятаў, як трымцела ў бервяне нечая страла. Як гаспадар, узяўшы сякеру, сышоў з дому. Як праз колькі дзён дзіка галасіла гаспадыня. Памятаў, як палалі навокал селішчы, гінулі людзі. Яго вёску выратаваў сябра-багіннік. Ён загінуў, але расплыўся туманам і варожае войска прайшло побач...

Надышлі іншыя часы. Людзі забыліся на сваіх маленькіх суседзяў, а потым сталі пакідаць вёску. Адны з'язджалі некуды, шукаючы лёгкага жыцця. Іншыя пераходзілі ў мёртвыя камяніцы, дзе прыжываліся толькі пацукі. І нарэшце атруцілі зямлю.

У рэштках старасвецкай пушчы, на кургане, раптам зашумела, забіла голлем векавечная сасна.

Удзень завылі ваўкі.

Стары лясун, аблапіўшы пашкрэбаны часам таўшчэзны дуб, бязгучна заплакаў.

Вадзянік выплыў з віру, абцёр з лысіны вясёлкавую пляму нафты і, цяжка ўздыхнуўшы, з шумам нырнуў.

А малады хлопец-ліквідатар вылез з кабіны і, прысеўшы на бервяно, закурыў, дзівячыся раптоўнаму смутку...



Віктар ТРУСЕВІЧ

* * *

Паглядзеў навокал —
і зямля мне здалася
спячай матуляй...
Вось чаму
размаўляю шэптам.

* * *

Цяжка ў полі за плугам хадзіць,
луг зялёны ўранні касіць.
Цяжка новую хату рубіць,
цяжка дрэўца вясной пасадзіць...
Але сама цяжэй у жыцці —
доўгі шлях без падзенняў прайсці.

* * *

Калі ты ніколі не плакаў
над чужой чалавечай бядою,
калі ты ніколі не думаў,
аб чым шэпча вецер з травою,
калі ты роднай мовы сваёй не ведаеш —
табе ніколі не трапіць
у Краіну Паэзіі.



* * *

Ты будуеш непаўторныя храмы,
каб сваімі рукамі
зрунаваць іх.
Ты пішаш выдатныя кнігі,
каб сваімі рукамі
кінуць іх у касцёр.
Ты вынаходзіш найсучасную зброю,
каб сваімі рукамі
знішчыць сябе...
Хто ж ты
пасля ўсяго гэтага,
Homo Sapiens?..

Апошняя ноч Кастуся Каліноўскага

Як вароны, сутонні хмар
над цямніцай ужо ўзвіліся...
Больш не ўбачыць мне мілы твар
незабыўнай сваёй Марысі.
Мне на волю не выйсці больш.
І з сябрамі мне не сустрэцца...
За цябе, мой народзе, боль
працінае душу і сэрца.
Хутка прыйдзе ў цямніцу кат
і вяроўкаю шыю здушыць...
А за вокнамі — зарапад...
А за вокнамі — снег цярушыць.



Наталля КУЧМЕЛЬ

# СВЯТЛО Ў ВОКНАХ

*АПАВЯДАННЕ*

У кватэры цёмна. Праз вялікія вокны ціха цэдзіцца змрок — празрыстае сіняе чарніла. Яна адна ўдома. Сядзіць нага за нагу, у лёгкім халаце, спінай да акна і, апусціўшы галаў, засяроджана дзівіцца ў кут. Нічога не робіць, не запальвае святла. Хочацца падумаць, пабыць нядоўга самой — без клопату і праблем. Зараз яна ўстане, прывычнай хадой пройдзецца па пакоях. Яшчэ раз адкрые і закрые кожную шафку; падыме місы на стале; загляне ў духоўку — там качка, а ў патаемным схове за лядоўняю — бутэлька гарэлкі. Дарэмная трывога. У вялікім бязладдзі вялікага горада яна па кроплях будуе для сябе малы цёплы свет, дзе, здаецца, ёсць усё. Прынамсі, так здаецца. Ціхі трыумф: хапянула сёння неблагое свініны — сабе і сяброўцы. Пастаўіла з сабой яе ў чаргу — значыцца, прага добрых спраў спатолена таксама... Усё ёсць. Можна сядзець і думаць невясёлыя думы.

* * *

"Я моцна вінаватая перад табой. Я паіла цябе і спаіла".

Хоць от тут яна, мабыць, паграшыла супраць ісціны. Не яна адна. Гэты працэс шчасліва пачаў той гаспадар, у якога, быўшы студэнтам, здымаў пакойчык ён напалову з сябрам. Яна часта бывала ў іх. Памятаюцца вясёлыя вечары — гітара, вершы; спаборнічалі ў досціпах, а калі стамляліся, ставілі музыку — добрую, дарэчы. Алкаголь хіба крышачку патрэбен быў — дзеля разагрэву. Гэта ім. А Сёму старому — болей.

Цікавы чалавек Сёма. Сам сухенькі, зморшчаны; даўжэйшы стаж піцця, чым у яе — жыцця. А размова ціхая, лагодная; свеціцца з-пад вялікага лба вочы дзіцяці, пакрыўджанага анёла. І ў партыі быў, і ў турме сядзеў. Лёсам кіданы, як лёгкае кляновае семя. Бадзяўся па розных землях, па чужых гарадах. Шмат што бачыў; стаміўся. Але любіць іхнюю кампанію — смех, маладую гаману. Ці проста любіць грошы. Бо ў яго кожны год жывуць студэнты. Яны навучылі яго добрай беларускай мове, і ён можа на роўных, як хлопцы, абмяркоўваць пытанні літаратуры: гераіня павінна быць такая і вось такая — як зрабіць, каб пры такіх дадзеных яна не выглядала круглай дурніцай? Але ўрэшце літаратурная нарада мякка пераходзіла ў п'янку і смешачкі. І пад смешачкі гэтыя, таксама нібыта жартам, слухала яна словы аб сваёй жаноцкасці, прыгажосці і розуме.

Ёй часта казалі: "Непрыгожых жанчын не бывае. Бывае на кампанію мала гарэлкі". І яна сядзела з выглядам наіўна-панікнёным, уголас нічога не гаварыла. Сама пра сябе нярэдка думала з гумарам. Гэта добра ёй дапамагала, надавала сіл пры чарговым прызямленні з вышынь закахання — носам ды ў глебу. Прызямленні такія паўтараліся амаль хранічна. Дзякуй Богу і лёсу — навучылася не рабіць з іх праблемы. З мужыкамі яна воліла сябраваць. Так было лягчэй — потым не трэба расчароўвацца. І моцна была ўражана, калі аднойчы, пасля звычайнага насмешліва-рыцарскага пацалунка, ён перавярнуў яе руку і даткнуўся вуснамі сярэдзіны далоні.

Яна падняла на яго здзіўленыя вочы. За вокнамі ліў чорны дождж. Яны адны былі ў пакоі. Сёма ці яшчэ не прыйшоў з працы, ці пабег кудысьці па гарэлку. Сябра — высокі тонкі хлопчык з цяжкімі вялікімі валасамі, аблічча́м падобны да дзеўчыны — на кухні рэзаў хлеб і крычаў адтуль нешта здзеклівае. Не таму, што бачыў, — проста наогул так размаўляў. А яны ўжо цалаваліся — палка, адчайдушна, прагна, нібыта ім заставалася вось толькі гэтая хвіліна... І краёчкам вока пазіралі на дзверы. Яны былі асцярожныя людзі. Можа, таму пра іх раман шмат часу ніхто не ведаў потым. А ён быў даўгі. І яшчэ цягнуўся б даўжэй. Ім было так добра разам: які чорт пацёг яго жаніцца?

Ведама які. Прапіска. Кар'ера. І тая — мяккая, пакорлівая, з ласкавымі вачыма. На чатыры гады за яго маладзей. Наогул, бываюць у мужкоў дзіўныя словы, дзіўныя ўчынкі. Так і сказаў аднойчы: "Я ніколі цябе не кіну і ніколі з табой не ажанюся. Ты — моцная. Занадта моцная для жанчыны".

Цудоўна, што моцная. Была б слабая — ужо зямлю парыла б дзе-небудзь. Колькі разоў наведвала такая думка. Парывалі з ёй, кідалі, а потым да яе ж прыходзілі плакаць: жонка пакрыўдзіла. Яна ўгаворвала, супакойвала — і адпускала: "ідзі". А слёз ейных, чорнага ад болю твару ніколі не бачыў ніхто. Таму і лічылі: жалезная. І працай нагружалі па самую завязку. А яна рабіла працу і думала: "Калі-то яно прыйдзе, шчасце?". Спадзявалася: прыйшло... Ды нядоўга пашчасцявала. Конаўка радасці — цэбар слёз, каменнае, смаляное тугі. Ёй, аднак, не звыкаць: сціснулася — перажыла. Па-новаму ўклала валасы, спляла нейкі швэдар. Усе нават знаходзіць сталі, што папрыгажэла. Ні з кім не дзялілася, нікому нічога не распавядала. Толькі часцей па вечарах заставалася адна. Лашчыла, узяўшы на калені сабе, шэрае кацяня. Каток кусаў нітку — яна мякка адводзіла ягоную галоўку, давала драпаць руку. Пацешнае малятка. Шкода было, калі знікла. Гаравала па ім, як па чалавеку. Тады стала гнясці адзінота. Хоць бы хто здагадаўся зайсці сам; хоць бы самы бязглузды з сяброў ці каханкаў былых. Тэлефанаваць не хацелася. Ну, патэлефануе — і што яна скажа? "Калі ласачка, прыйдзіце, пашкадуйце мяне, якая я няшчасная — кот і той збег". Зашмат гонару. Дый хто абавязаны няньчыцца з чужымі дэпрэсіямі? Перацерпіцца. Не першы раз.

І раптам прыйшоў ён. *Знерухомела* ў дзвярах — нават не адразу пасунулася, каб даць дарогу. Нібыта нейкая мяжа пралягла паміж імі — глядзела быццам праз шкло, як ён распранаецца, вешае паліто на гачок, дзелавіта тэпае ў кухню. Пайшла за ім, паставіла ваду на гарбату — усё ў нейкім здранцвелым холадзе, як на аўтапілоце. Сама сябе не разумела — радуйся, дурніца, кінься на шыю! Нічога падобнага. Сноўдалася, быццам бы вялікая сонная рыба. Пакуль першым не абняў ён. Пакуль, выпусціўшы з абдымкаў, не схаваў ейны твар у мяккіх белых далонях. Да яе нібыта ізноў вярнуліся пачуцці. Ізноў стала для чаго жыць, для чаго быць на свеце — дзеля яго. Страпянулася, ажыла маладая вясялосць колішняй іх кампаніі. Ён вярнуўся! Ён хоча яе бачыць! Але як зрабіць, каб вяртаўся яшчэ?

Ён стаў прыходзіць часта. Тады, у шчаслівы далёкі год, не адзін Сёма нагбом жлукціў гарэлку. Ейны герой выглядаў таксама не лепшым чынам. Яна поіць яго. І будзе паіць. Калі такім, як яна, не даецца каханне без платы — добра. Хай гэта будзе яе плата. Нічога, што кавалак шчасця надта ж куцапы. Дзякаваць трэба. Хоць за такі.

* * *

Белы цыферблат. Як пляскаты, прыглушаны цемраю прывідны твар. Хопіць сядзець — позна. Трэба ўстаць. Уключыць святло на кухні, каб ён пабачыў, што яна дома, і прыйшоў. Ён жыве ў суседнім доме. Яму пуста і страшна ў адзінокай, без тэлефона, кватэры. Яго кінула жонка, амаль зракліся бацькі. Наўрад ці ён прыгожы, наўрад ці разумны. Ён заўсёды ласкавы з ёй. Толькі. І разумее. Другія не разумеюць. Радуецца, бачыўшы яе ў новай сукні, у добрым настроі. Астатнім ці не ўсё роўна. Дзякуй Богу — яны ёсць адно ў аднаго. І зноў, абняўшыся, будзе ім цёпла. На час. На дзень. На хвіліну. Зараз... Яна толькі пойдзе і ўключыць святло.

Нашы рэцэнзіі

# ПРАЎДА НЕПАДСУДНА ЧАСУ

Так, праўда непадсудна часу. І пра гэта яшчэ раз нагадвае кніга Аляксандра Афяроўскага "Святло паўночнага ззяння".

Скідваем з п'едэсталаў — і правільна робім!— дутыя ідэалы, пазбаўленыя "каштоўнасцей", што маюць пад сабой ідэалагічную аснову і адначасова пазбаўлены агульначалавечага падмурку. Таксама нельга не пагадзіцца з правамоцнасцю падобных крокаў. Здавалася б, усё правільна... Толькі чамусьці кранае сэрца нейкая незразумелая туга, і яно, сэрца, пачынае біцца трывожна. Чамусьці такія ўжо мы, калі будаваць нешта новае, дык абавязкова руйнуем да асноў старое. Не бачым, не заўважаем, што адмаўляецца ўжо і тое, што і пры новым часе можа паслужыць сваю добрую службу.

Я не пра рэвалюцыйны максімалізм, калі ўсё вырашаў яго вялікасць Маўзер. І не пра тое, што барацьбіты за свабоду і незалежнасць усяго чалавецтва далёка не часта ў сваіх учынках, памкненнях, дзеяннях зыходзілі да таго, каб зразумець канкрэтнага чалавека. Супраць усяго гэтага мы павінны выступаць рашуча і беспаваротна. Я — пра тую сумленнасць, без якой немагчыма рабіць любую справу. Пра чалавечнасць я, што несумяшчальная з кар'ерызмам, хціўасцю.

Мабыць, многія з вас у свой час глядзелі мастацкі фільм "Начальнік Чукоткі". Гэты фільм — пра нашага славутага земляка Міхаіла Сяргеевіча Мандрыкава. А яшчэ ёсць пра яго цудоўная аповесць, напісаная А. Афяроўскім.

Цяпер кніга выпушчана выдавецтвам "Юнацтва" ў серыі "Слава твая, Радзіма!", і я ў чарговы раз перачытваю яе, а ў думках вяду спрэчку з тымі, хто ўжо гатовы цалкам адмовіцца ад рэвалюцыйнага мінулага. Маўляў, былі "чырвоны тэрор", знішчэнне тамбоўскага сялянства, былі карныя экспедыцыі супраць казацтва. Ды мала што было...

Пачну з апошніх дзён жыцця героя.

Чаму з апошніх? Проста кажучы, што сапраўдны чалавек не толькі годна жыве, а і здатны не менш годна памерці. Дык вось, працаваў Мандрыкаў на пасту старшыні рэўкома зусім мала. Калчакаўцам удалося сабрацца з сіламі. Акружаныя Мандрыкаў разам з таварышамі маглі б адкрыць агонь. Але ўсё якраз і заключалася ў тым, што зрабіць гэта ім, па сутнасці, было немагчыма. Ворагі ўсё разлічылі, да самых дробязяў. Яны засялі ў суседніх жылых дамах, а там — дзеці, жанчыны. У гэты момант Мандрыкаў і рашыўся на крок, на які здатны толькі сумленны і гуманны чалавек. Рашуча прагучалі яго словы:"Не палічыце мяне баязліўцам і здраднікам, я ніколі не быў і не буду ні тым, ні другім. Выхаду са становішча не бачу, акрамя аднаго..."

Выйсце было ў тым, каб здацца, спадзеючыся, што ў далейшым удасца з турмы ўцячы. І ўцякл і б, у гэтым не можа быць сумнення, не з такіх варункаў выходзіў Мандрыкаў. Уцяклі б, але... "Некалькі ахоўнікаў павялі пяцярых рэўкомаўцаў па льду рэчкі Казачкі да процілеглага берага. Было восем гадзін вечара. Сцямнела. Таму кожны канваір трымаў на мушцы сваю ахвяру, каб не прамахнуцца... Першая куля паваліла светлавалосага Вальтэра Арэнса. Затым былі расстраляны Мікалай Куліноўскі, Мяфодзій Галіцкі, Іосіф Бучак. Больш за іншых трымаўся Міхаіл Мандрыкаў. Сабраўшы апошнія сілы, ён падняў над галавой моцна сціснуты кулак, адкінуў рукой з твару пасму валасоў і крыкнуў:

— Баязліўцы вы! За нас вам адпомсцяць...

Аповесць "Святло паўночнага ззяння" так і напісана, што ад першай да апошняй яе старонкі ненавязліва праводзіцца аўтарам думка аб выключнасці характару героя, аб яго надзвычайнай перакананасці ў праваце справы, якой прысвяціў жыццё. І адначасова — гэта таксама вельмі важна — Мандрыкаў належаў да людзей, якія нават у імя самай вялікай мэты не хібілі, не ішлі на кампраміс з уласным сумленнем.

Па крупінках збіраў А. Афяроўскі матэрыял для будучага твора. Знаёміўся з публікацыямі, шмат працаваў у архівах, неаднаразова сустракаўся з людзьмі, якія ведалі Мандрыкава. Вельмі шмат дало пісьменніку тое, што на пачатку сваёй працы ён пазнаёміўся з выкладчыкам Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі Уладзімірам Майсеевічам Ліўшыцам, які даўно займаецца даследаваннем гістарычнага мінулага роднага краю.

Праўда, матэрыял да ўсяго неабходна ўмела сістэматызаваць, абагульніць. Знайсці, нарэшце, стрыжнявы момант, ідучы ад якога можна найлепшым чынам падаць разрозненыя факты, выстраіўшы іх у сістэму. Аўтару кнігі гэта ўдалося. Штуршком сталі падзеі 1905 года, калі Міша Мандрыкаў вучыўся ў Горацкім рамесным вучылішчы. Дэманстрацыя, што адбылася 16 снежня, закончылася трагічна. Паліцыя застрэліла двух яе ўдзельнікаў — Пятра Бруцара і Фаму Ерафеева, сцяг з рук якога ўзяў Мандрыкаў...

Гісторыя канкрэтнага лёсу становіцца і ўдалай спробай разабрацца ў самой сутнасці рэвалюцыйных падзей, прачытаць іх праўдзіва, непрадузята. Шмат гаворыцца пра службу Мандрыкава на флоце, пра жыццё ва Уладзівастоку, адкуль яго і накіравалі ў Анадыр, дзе наўздзіў поўна раскрыліся чалавечыя якасці нашага земляка, дзе і прывабіла яго "святло паўночнага ззяння". Ды і ён сам нёс тамтэйшаму люду святло новага жыцця, нездарма ў Чукоцкай нацыянальнай акрузе пра Мандрыкава ходзяць легенды.

У чарговы раз перачытана кніга. У чарговы раз перагорнуты старонкі жыцця слаўнага чалавека. Жыцця, якое — пагодзімся — вартае нашай увагі сёння. Можна многае адмаўляць, але праўда была, ёсць і будзе. З гэтай думкай і неабходна нам падыходзіць да мінулага. І не толькі сівой даўніны, а таксама мінулага рэвалюцыйнага.

**Алесь Марчэня.**

Гасцёўня



Леанід ЯЎМЕНАЎ

* * *

Свет над прадоннем,  
А ім — адно лейцы.  
Шрамы на сэрцы...

Воля і праўда —  
Адно на паперцы,  
Шрамы на сэрцы...

З княжучых злыдняў  
Зорак не здзерці.  
Шрамы на сэрцы...

Людзі гібеюць  
У паняверцы.  
Шрамы на сэрцы...

Гора народа.  
Як можаце — змерце.  
Шрамы на сэрцы...

Плошчы кіпяць,  
Нібы кратэры смерці.  
Шрамы на сэрцы...

## Амаль перад апакаліпсісам

Стогн сусветны,  
Гвалт штодзённы —  
Свет жахлівы...  
Чорны дух —  
Чарнобыль дзікі  
Скрозь ілжывы.

Што з былога —  
Усё на згубу  
У чорным брудзе;  
Рвуцца сэрцы,  
Рвуцца душы —  
Гінуць людзі.

Прахне слова,  
Прахнуць справы —  
Чэзне праўда;  
Хто ўтаймуе,  
Хто ўратуе,  
Хто дасць рады?..

## Матыў беларускага рэквіему

Сыходзіш крывёю  
Спрадвеку  
За клопат чужы  
І грэх,  
Бяздомніца мая...

Ва ўсякім куточку —  
Бяда  
Ва ўсякім гаёчку  
Крыж,  
Бяспраўніца мая...

У кожным глыточку  
Вады,  
На кожным лісточку —  
Смерць,  
Пакутніца мая,  
Беларусь...

Боб ГАНЧАК

## Сама-рэклама

Я — Боб Ганчак,  
рыфмач-хахмач...  
Як бачыце,—  
не просты цюцька!  
Каб зарабіць  
сабе на харч,  
кручуся дзень і ноч  
я круцьма.  
Я рыфму ўпадабаў  
змалля.  
Як костку,  
палюбіў паперу...  
Я не вазьму ад вас  
рубля,  
бо, як і вы,  
рублю не веру.

## Маналог графамана

Люблю цябе, салодкае віно.  
Люблю, калі я ў бочцы бачу дно.

Хапіў глыток — і мора па калена.  
Цвярозасць мне — нібы сабаку сена.

Мой шлях навек ты вызначыў, "Агдам"...  
Апошні талер за цябе аддам.

Твой смак заўжды салодзіць мне душу...  
Вось выпіў — і на ўсіх пароды пішу.

*Ганарар ахвярую на патрэбы літаб'яднання "Крыніцы".*





## Казка пра лёгкае напісанне вершаў

*чорныя чорныя чорныя птушкі*  
*белыя белыя белыя косці*  
*чырвоная чырвоная чырвоная вада*  
*чарапы чарапы чарапы*  
*вецер вецер вецер*

Віктар ШНІП

Жыў-быў Шніп Шніп Шніп  
пайшоў Шніп у лес лес лес  
сеў там на пянёк пянёк пянёк  
і напісаў верш верш верш

## А ХТО ТАМ ІДЗЕ?..

*Растуць маладыя, растуць...*  
*Ім прагнецца хуткае славы.*  
*Здаецца ім лёгкай забавай*  
*Любога за пояс заткнуць.*

*Да кожнага з іх не было*  
*Ні Коласа ў нас, ні Купалы...*

Уладзімір Паўлаў ("Полымя"№3, 1922).

Ідуць маладыя, ідуць —  
крыніца СП не мялее...  
У. Паўлаў, зляканы, нямее:  
а раптам за пояс заткнуць?

Запозна яму падфарціла:  
такой бы пасадзе — застой!..  
Не Сыс, дык Сяргей Вераціла  
прыйдзе і — у дзверы нагой!  
— Андрэіч,— ён скажа як роўні,—  
давай, вымятайся адсюль...  
Утульна паэту ў кіроўні,  
хоць ён і не Колас пакуль.

Рада "Крыніц" працуе па панядзелках з 15 да 20 гадзін у грамадскай прыёмнай штотыднёвіка "Чырвоная змена" *(Дом друку. Праспект Ф. Скарыны, 77, пакой 112, першы паверх). Тэл. 32-65-46.*

Літаратурны выпуск "Крыніцы" вядзе пісьменнік Алесь Масарэнка.

## Кінаафіша

### "Афганскі злом"

Новую каляровую двухсерыйную мастацкую кінастужку з такой назвай знялі сумесна савецкія і італьянскія кінамайстры. Сцэнарый да фільма напісаў Аляксандр Чарвінскі з удзелам М. Ляшчынскага, Л. Багачука і А. Пятровай, рэжысёр-пастаноўшчык — Уладзімір Бартко.

Фільм распавядае аб тым, што былі на гэтай страшнай, нікому не патрэбнай вайне, сумленныя і нявінныя людзі, якія носяць ваенную форму. Яны ішлі ў бой па загаду, але прасвятленне ўсё ж напаткала іх. Менавіта такі маёр Бандура, ролю якога выдатна выконвае знакаміты акцёр Мікеле Плачыда, вядомы нам па тэлесерыялу "Спрут".

У астатніх ролях здымаліся Таццяна Догілева, Міхаіл Жыгалаў, Аляксей Серабракоў, Ніна Русланава, Мікалай Усцінаў, Аляксандра Стэфанэлі і іншыя акцёры.

### "Выбухная брыгада"

Гэты каляровы мастацкі фільм стварылі аргенцінскія кінематаграфісты. Аўтар сцэнарыя — С. Кальва, рэжысёр — Э. Дабель.

... У паліцыю звяртаюцца чацвёра шчырых сяброў. Не, не па дапамогу, а з жаданнем працаваць там. Іх прымаюць на службу і ствараюць з хлопцаў паліцэйскую брыгаду са значнай назвай "Z". Назва ў брыгады, канешне, на ўзроўні сусветных сакрэтных службаў, але вось змест... Змест яўна падкачаў. Чацвёрка гора-паліцэйскіх так часта трапляе ў самыя неверагодныя пераплёты і з такім камізмам імкнецца выйсці сухой з вады, што ў глядзельнай зале раз-пораз чуюцца выбухі няўтрымнага рогату. Вось ужо сапраўды выбухная брыгада...

Ёсць у гэтым захапляльным фільме і цэлы каскад галавакружных трукаў, і смяротныя пагоні, і, канешне ж, чароўныя сексуальныя жанчыны. А цудоўная ігра Эміліа Дзісі, Марыа Касана, Вяруга Карамбула і іншых акцёраў робіць карціну па-сапраўднаму прыцягальнай і надоўга запамінальнай для гледачоў.

### "Выбухная брыгада супраць ніндзя"

Фільм таксама зняты аргенцінскімі кінамайстрамі. Ён пастаўлены рэжысёрамі М. Анхелам і Ф. Алонса па сцэнарыю С. Кальва.

Гэта працяг кінакамедыі "Выбухная брыгада". Карціна зноў распавядае пра смешныя і небяспечныя прыгоды знаёмай ужо гледачам чацвёркі няўдачлівых паліцэйскіх, якія заўсёды трапляюць у самыя неверагодныя сітуацыі.

... Банда наёмных забойцаў-ніндзя тэрарызуе горад. "Славутая" брыгада "Z" атрымала заданне — ліквідаваць "нябачных байцоў". Чатырох шчырых сяброў чакаюць смяротныя паядынкі з ніндзя... А далей гледачы ўбачаць масу камічных сітуацый з пераапрананнямі, баявое мастацтва ніндзя, спакуслівых смуглявых прыгажунь, якія прыўносяць у фільм нямала чароўнасці і пікантных сцэн.

У гэтай захапляльнай кінакамедыі зноў ззяюць майстэрствам Эміліа Дзісі, Марыа Касан, Вяруга Карамбула і іншыя акцёры.

### "Акіян"



Так назвалі сваю каляровую двухсерыйную мастацкую кінастужку, пастаўленую рэжысёрам Рахулам Равайлам па сцэнарыю Хумаюна Мірзы, індыйскія кінамайстры.

Маленькі Аджыт — сын афіцэра паліцыі Сураджбхана, які праводзіць дослед злачыннай дзейнасці мафіі. Бандыты выкрадаюць хлопчыка і забіваюць яго нага бацьку. Узначальвае гэтыя акты адзін з адпетых мафіёзі Нарсінгх, заўзяты прыхільнік жорсткіх метадаў. Не здолеўшы пазбегнуць правасуддзя, ён завяшчае сваёй бандзе выхаваць з малыша бяздушнага забойцу...

Галоўныя ролі выконваюць Сані Дзеал, Пунам Дхілан, Анупам Кхер, Рошні, Амрыш Пуры.

# Я быў на іншай планеце

Прачытаў у перыядычным друку гісторыі аб сустрэчах з НЛА і вырашыў расказаць пра выпадак, які здарыўся са мной у гэтым годзе 13 лютага. У той дзень стаяла добрае зімовае надвор'е з невялікім марозікам. Я, студэнт тэхнікума механізацыі сельскай гаспадаркі, жыў у інтэрнаце на 4-м паверсе. На ноч мы з хлопцамі адкрылі акно і ляглі спаць.

Хачу адзначыць, што я ў гэты час захапляўся матэрыяламі аб усякіх анамальных з'явах. Дык вось. Быў гэта сон ці падабенства на сон, не ведаю... Прыкладна ў 4—5 гадзін раніцы мне здалося такое: зорнае неба і так блізка, што зразумеў — не з Зямлі бачу. Сузор'і як на далоні. Праз некаторы час мы, менавіта "мы", таму што я адчуваў побач прысутнасць кагосьці, наблізіліся да нейкай планеты. Я яе выразна бачыў, падобная на наш Месяц, але з атмасферай яўна зямной, ахутанай раўнамерным туманам. На планеце нас сустрэлі істоты, якія паходзілі на людзей, але з непрыемным колерам скуры — цёмнай, з шэрым адценнем і металічным бляскам. Мы прайшлі ў нейкую мясцовасць, якую, відаць, шанавалі планецяне. Тут мне на галаву надзелі апарат у выглядзе шлема з адтулінамі для агляду. Уключыўшы апарат на некалькі хвілін, істоты знялі яго. Адзін з іх праверыў апарат другі раз і жэстамі, а таксама шыпячымі, шчоўкаючымі гукамі звярнуўся да натоўпу. І ўся гэта маса задаволена пачала ківаць галовамі і ўзмахваць рукамі, адабраючы дослед, які быў праведзены са мной.

Затым мяне павялі тым жа шляхам на месца пасадкі. Адзін з ішоўшых спыніўся і даў зразумець, што трэба пачакаць. Я агледзеўся — вакол была шэрая парода тыпу застылай лавы, неакрэслены гарызонт зліваўся з небам. Зверху марудна спускалася да нас кропка, якая свяцілася.

Краем вока я паспеў агледзець свайго суседа. Твар яго быў шэрым з глыбока пасаджанымі вачыма, яны бліскучэлі амаль як у зямлян. Бровы адсутнічалі, невялікая выпукласць замест носа з ноздрамі, хваліcты рот, вушы, як дзве невялікія адтуліны.

Кропка свяцілася, набліжалася і станавілася ўсё большай. Яе заўважылі, і з усіх шчылін, з-за ўзгоркаў пачалі з'яўляцца істоты, падобныя да майго спадарожніка, але рознага росту. Сярод іх я ўбачыў і такіх, на якіх скура была шматкамі аблезлая. Асабліва мяне ўразіла тое, што ўлавіў невялікі ветрык і шолах шматкоў скуры.

Па знаку таго, хто суправаджаў, усе іншапланецяне пачалі прыпадаць да "зямлі" і ўзнімаць "рукі" ўверх. Я зразумеў, што яны развітваюцца са мной.

Кропкай, якая свяцілася, быў касмічны карабель тыпу "Энергія", але толькі меншы за яго разоў у сто і разлічаны на чатыры сядзячыя месцы. З яго выйшлі людзі ў чыстых белых касцюмах і накіраваліся да нас. Нешта сказалі майму спадарожніку і паказалі на карабель. Мой спадарожнік, гледзячы мне ў вочы, працягнуў "руку" для развітання. Я адказаў на рукапацісканне і адчуў дотык сухой, зусім чалавечай, крыху халаднаватай "далоні" з, на здзіўленне, мяккай скурай. Я адчуў прыемную лёгкасць і міжволі накрыў яго "руку" другой далонню. Я ім нешта крычаў, імітуючы іх жэсты.

Калі падышоў да карабля, убачыў, што тры пілоты сядзяць у крэслах і чакаюць мяне. Адзін з іх сказаў: "У нас мала часу, хопіць развітвацца". Я павярнуўся да свайго "знаёмага" і раптам нечакана для сябе пракрычаў: "Я яшчэ вярнуся". Забраўся ў кабіну апарата — і ён пачаў марудна адрывацца ад паверхні планеты.

Я пачаў з жаднасцю агляджаць свайго спадарожніка, натоўп яго "супляменнікаў", мне хацелася запомніць іх усіх, планету, атмасферу, усё, што траплялa ў поле майго зроку. У мяне ўзнікла жаданне неяк дапамагчы ім. Я задаваў сабе пытанне, чаму яны выклікалі ў мяне такое моцнае пачуццё жалю, і нехта мне адказаў (і пытанні і адказы не прагучалі, яны былі адчуты мною): "У іх адбылася экалагічная катастрофа!"

Суседзі па кабіне здаліся мне высокага росту, са светлымі валасамі і прыемнымі рысамі твару. Інстынктыўна я адчуваў, што з траіх членаў экіпажа — адна жанчына. Увесь час вандравання я адчуваў лёгкасць і фізічную, і маральную, і душэўную.

Даволі хутка мы прыляцелі ў нашу Сонечную сістэму і наблізіліся да Зямлі. Я зноў апынуўся каля інтэрната, глянуў на неба — яно было асветлена першымі промнямі зары. У акне суседняга цераз вуліцу дома ўбачыў адбітак святла адлятаючага карабля. Падумаў, дзе я знаходжуся зараз? А дзе павінен быць у гэты час! У думках гавару сабе: "Я ж зараз павінен спаць". У гэты час я прачнуўся.

Паглядзеў на акно і раптам адчуў, што нехта стаіць ля майго ложка. Рэзка паварочваюся, але нікога не бачу. Гляджу ў праём адчыненага акна і адчуваю, што ў мяне ўліваецца быццам нейкім подыхам энергія. З дзіўным выдыхам тыпу "а-а-а..." пераварочваюся на правы бок і адчуваю незвычайную лёгкасць ва ўсім целе. Галава светлая, чыстая, але кісці рук былі амаль неадчувальныя. Астатнія часткі цела я не адчуваў. Дзіўнае задавальненне прадаўжалася нядоўга. Я захутаўся цяплей у коўдру і заснуў моцным сном, як пасля цяжкай, але незямной працы.

Прачнуўся позна, і маё касмічнае вандраванне паўстала перада мной зноў зусім выразна.

Я ніколі не бачыў сноў. Мне 23 гады і я сплю моцна. Але тут я сцвярджаю, што адчуванні былі самыя рэальныя.

**А. Ладынскі, механік.**






**Святлана Алексіевіч – беларуская пісьменніца, аўтар кніг "У вайны не жаночы твар" і "Цынкавыя хлопчыкі", шырока вядомых не толькі на Беларусі, але і перакладзеных на многія мовы свету. Па яе сцэнарыях "Беларусьфільм" паставіў некалькі дакументальных стужак, у тым ліку "Гэтыя незразумелыя старыя людзі". "Чырвоная змена" прадстаўляе новую кнігу С. Алексіевіч "Зачараваныя смерцю", у якой пісьменніца даследуе праблему самазабойства.**

НА ЗДЫМКУ: пад час сустрэчы з гераіняй.

*"Сотні тысяч расстраляных на досвітку, жудасныя катавальні, зямля Еўропы, угноеная мільёнамі трупаў сваіх дзяцей, — спатрэбілася ўсё гэта, каб аплаціць дабаўленыя да ведаў два ці тры адценні, уся карысць ад якіх, напэўна, абмежавацца тым, што дапаможа некаторым з нас памерці з большай годнасцю...".*

Альбер Камю "Пісьмы да нямецкага сябра", ліпень 1944 г.

## ЗАМЕСТ ПРАДМОВЫ

Мімаходзь падслуханая размова ў метро, потым раптоўна ўзгаданая. Твары зніклі, прамільгнулі ў аднолькава стомленым, сцэментаваным гэтай стомленасцю маскоўскім натоўпе, засталіся толькі галасы. Здаецца, то былі маладыя галасы, яны і запомніліся гэтым вяртаннем часу, нашай неўтаймоўнай асуджанасцю на вяртанне...

**Першы голас.** Тое, што ты называеш нашай гісторыяй, прадмет для псіхіятрыі.

**Другі голас.** Нам заўсёды не хапае мінулага...

**Першы голас**. З якога бруду, з якога кашмару... На якой крыві ўсё гэта замешана... Ты цяпер разумееш?

**Другі голас.** Але гэта ўсё наша... Гэта той няшчасны кавалачак зямлі, які я люблю.

**Першы голас.** Няўжо можна любіць гэтую лужыну крыві? Гэтыя могілкі?

**Другі голас.** (Пасля працяглага маўчання). Люблю... Мы ж з табой гаварылі аб спакусе утопіі.

**Першы голас.** Паталогія... Мы ўсе хворыя...

## Інтэрв'ю, якое ўзяла аўтар у самой сябе аб кнізе, якую трэба напісаць

**– Дык аб чым будзе гэтая кніга? Аб тым, што Марына Цвятаева называла "жаданнем не быць"? Як чалавек выходзіць з гульні пад назвай – жыццё? Сам знаходзіць свой шлях у космасе. Не чакае. І душа пакідае "мілае цела", як гаварылі грэкі...**

— Нават, напэўна, у забойстве чалавек не ўвесь. І ў забойстве самога сябе таксама. Чалавека многа і мала адначасова, асабліва таго чалавека, якога перадалі, зашыфравалі, злавілі, спавілі ў слове. У фарбах, у гуках, у малітвах. Гутарка ідзе аб тым, што пра чалавека вядома мастацтву. Тайна тут вялікая ёсць! Мастацтва аб многім у чалавеку і не здагадваецца.

Я ж змагу няшмат, я раскажу пра чалавека, якога, мяркую, ведаю, таму што побач з ім жыву, адчуваю, разважаю. Стаю разам у чэргах, еду ў тралейбусе, сяджу на канцэрце. Гэта будзе кніга чалавечых сведчанняў на геалагічных абломках таго, што яшчэ нядаўна лічылася гіганцкай сацыялістычнай імперыяй, называлася "сацыялізмам", "сацыялістычным выбарам", які, як абяцалі яго правадыры, павінен быў прывесці да "боскага раю на зямлі". Сведкаў — мільёны, кожны з нас — сведка. Сведка і ўдзельнік, кат і ахвяра ў адной асобе.

Шкада, што калісьці ніхто не запісаў падобныя сведчанні на абломках гітлераўскага рэйха. Атрымалася б унікальная кніга пра звычайны фашызм — які ён быў на вуліцы і дома, у тэатры і на плошчы, у школе і ў гета, на фронце і ў бацькоўскім доме, у піўной і на могілках. У лямантце і ў шэпце. Трэба паспець зараз! Паспець угледзецца ў, здавалася б, знаёмы твар звычайнага сацыялізму. "Лицом к лицу лица не увидать..." — пісаў паэт. Але ў гістарычнай аддаленасці ёсць свая небяспека: зікнуць падрабязнасці, дэталі, партрэты, у якія ўжо сёння, калі ўсё яшчэ побач, немагчыма паверыць, такія яны па-дантаўску неверагодныя і фантастычна звычайныя, страшныя. І хто паручыцца, што праз дзесяць-дваццаць гадоў мы не пачнём прыдумваць, рэтушаваць, забывацца на мінулае, засаромеўшыся сябе сённяшніх. Аўтапартрэты заўсёды версіі, а не фатаграфіі...

**– Чаму тады расказы самазабойцаў? А не расказы звычайных савецкіх людзей са звычайнай савецкай біяграфіяй?**

— У камунізму быў вар'яцкі план — перарабіць чалавечую прыроду, змяніць "старога" чалавека, драхлага Адама. "Гома савецікус" — чалавек, аб якім марылі ўсе утапісты свету, і яго вывелі ў лабараторыі марксізму-ленінізму. Гэта асаблівы тып чалавечай генерацыі, але ён хутка знікне, растворыцца ў сусветнай цывілізацыі, у якую мы вяртаемся. Адны сцвярджаюць, што гэта трагічны і цудоўны чалавек, іншыя з абыякавым адчужэннем назвалі яго "саўком". Хто ж ён на самай справе ў свеце гісторыі і ў свеце не такога ўжо доўгага чалавечага жыцця, аднойчы дараванага? Хто!? Дзіця вялікай ілюзіі ці ахвяра масавага псіхічнага захворвання?

Гэты чалавек зараз на разломе... Там, дзе яшчэ зусім нядаўна ў метале, у бронзе і бетоне ўзвышаліся паўваенныя, паўрэлігійныя помнікі бальшавіцкім багам — бітае каменне, мацюканне на ўзнятых на дыбкі пастаментах. У штодзённых газетах ваенны пах: ашалелы нотоўп ля віннага аддзела растаптаў міліцыянера, бязногі франтавік, кавалер ордэнаў Славы расстраляў з абрэза мірна абедаўшых у прыватным кафэ, старая бальшавічка ўскрыла вены: знесены помнік Леніну, загінуў свет яе непарушных уяўленняў; былы воін-афганец спрабаваў спаліць сябе на плошчы, сусед-кааператар набыў "Мерседэс": пратэст супраць надыходзячага іншага жыцця, з іншай сацыяльнай іерархіяй і іншай сістэмай каштоўнасцей. Яны, хто меў толькі веру ў светлую будучыню і раптам страціў яе, сёння не вытрымліваюць... Сімптомы сацыяльнай істэрыі, або, на мове медыкаў, "пранікальны неўроз". Музыка распаду...

"Самазабойства, як з'ява індывідуальная, — пісаў М.Бярдзяеў у сваім эсе "Аб самазабойстве", выдадзеным у 1931 г. у Парыжы, — існавала ва ўсе часы, але часам яно станавілася з'явай сацыяльнай". Статыстыка апошніх гадоў пацвярджае яго словы: у 1987 годзе — 54 тысячы самазабойстваў, у 1988 годзе — 56 тысяч, у 1989 годзе — 80 тысяч. У два разы больш, чым загінуўшых у аўтамабільных катастрофах і ад крымінальных забойстваў. Аператыўныя міліцэйскія зводкі папераджальна фіксуюць, што самазабойстваў становіцца ўсё больш. Названыя гады не былі горшымі: каўбаса каштавала дзесяць рублёў за кілаграм, а не дзвесце, як зараз, савецкі чалавек яшчэ адчуваў сябе грамадзянінам вялікай краіны, а не жыхаром еўраазіяцкіх задворкаў. Ён зношваў за сваё жыццё дватры недарагія паліто, туліўся з сям'ёй у камуналцы, але ганарыўся тым, што першым прарваўся ў космас. Што яму належыць адна шостая частка сушы... Феномен таталітарнай свядомасці! Адным махам яго не пераскочыць. І я хачу выслухаць менавіта іх — расчараваных і бяссільных прыстасавацца...

**– Так, ёсць у рускім чалавеку тое, што Дастаеўскі добра зразумеў: прага пераступіць нешта, на самым вастрыі пабываць, на мяжы...**

— Слова "рускі" звыкла выкарыстоўвалі сінонімам да слова "савецкі". Хаця гэта не заўсёды так. Савецкімі былі ўкраінцы і грузіны, армяне і таджыкі, туркмены...

Але штосьці нас аб'ядноўвала, нягледзячы на розніцу культур і рэлігій. Увогуле ўсе мы былі доследным полем для камуністычнай ідэі. У нас свая мова, свой спосаб пачуццяў, свае ўяўленні пра дабро і зло, пра герояў і мучанікаў. Мы, людзі з сацыялізму, падобныя і не падобныя на людзей увогуле, гэтак жа, як чалавек, якога выпусцілі з турмы, але ён прабыў там шмат гадоў, падобны і не падобны на астатніх у натоўпе. У турме ў яго меўся ложак, заўсёды быў абед, няхай прасяная каша з кількай, але абед быў. І станок, і дэталі, якія ён тачыў, або дошкі і сталярны інструмент. Ён ведаў, што ў назначаны тэрмін яму выдадуць новую фуфайку, новую шапку, новую кашулю і новыя трусы. Прынясуць зубную шчотку, лыжку, відэлец... Усё да дробязей было прадумана, адладжана без ягонага ўдзелу. А на волі трэба думаць і адказваць за ўсё самому. Для гэтага чалавека жахлівая рэч — турбота ў галаве. Яму хочацца вярнуцца назад. Гэты стан Э.Фром вызначыў, як "уцёкі ад волі".

Вось я скажу: "кіруючая ды накіроўваючая сіла грамадства", "розум, гонар і сумленне нашай эпохі", "авангард сусветнай рэвалюцыі". Хто мяне зразумее паза "сацыялістычнай Айчынай"? Слоўнік эпохі савецкага таталітарызму таксама хутка знікне. Наўрад ці дзеці нашых дзяцей будуць ведаць, што "авангард сусветнай рэвалюцыі" — камуністычная партыя, "перамога вялікіх ідэй", "адзінае правільнае вучэнне" — марксісцка-ленінскае вучэнне, "правільная лінія" — лінія камуністычнай партыі, "падручныя партыі", "прыпражныя рамяні партыі", "шрубкі агульнапартыйнай справы" — савецкія пісьменнікі, "верныя ленінцы" — кіраўнікі цэнтральнага камітэта камуністычнай партыі, "развіты сацыялізм", "сталы сацыялізм" — тое, што ў нас пабудавана, "сацыялізм з чалавечым тварам" — тое, што мы павінны былі працягваць будаваць па першапачатковых планах архітэктараў перабудовы... І ўжо сапраўды яны не павераць, што за дасціпны палітычны анекдот, расказаны ў студэнцкім інтэрнаце, у трыццатыя гады можна было трапіць у лагер, а ў сямідзесятыя — вылецець з інстытута або пазбавіцца стыпендыі.

У НКУС прыводзяць чалавека. "Не наш чалавек. Не наш! Адразу відаць". — "А што ён такое гаварыў?" — "Ён нічога не гаварыў, ён — глуханямы. Але ён з такі-і-ім выглядам пляваўся...". У армянскага радыё пытаюцца: "Хто такі Леанід Ільіч Брэжнеў?". Армянскае радыё адказвае: "Дробны палітычны дзеяч у эпоху Салжаніцына". І на анекдоты забудуцца, а яны таксама дакументы эпохі, яе нораваў. Прачытаць бы зараз кнігу анекдотаў эпохі Кацярыны II ці Пятра I. Час ажыў бы, людзі ажылі б. Жывая сучаснасць...

Якіх людзей, якія карціны падзей мы ўяўляем, разважаючы пра рэвалюцыю, пра грамадзянскую вайну? Савецкую літаратуру, яе герояў, але не рэаліі таго часу. Чапаеў, Шчорс, Будзённы, Варашылаў... Рэальнага чалавека ўвесь час перараблялі пад ідэю. Тое, што выдавалася за рэальнасць, мела да яе такое ж дачыненне, як Кашчэй Бессмяротны і Салавей-Разбойнік. Гэта было не мастацтва, не філасофія, не літаратура, а "фабрыка рэальнасці". Мы жылі ў велізарнейшым сацыяльным акварыуме.

— У Варлама Шаламава, самага сумленнага нашага "лагернага" пісьменніка пасля Аляксандра Салжаніцына, ёсць такая думка, што лагерны вопыт нікому не патрэбны. Лагерны вопыт патрэбны толькі ў лагеры. Каму патрэбная гэтая кніга?

— "Чалавек ёсць сын памёршых бацькоў", — М.Фёдараў. Было чалавечае жыццё. Непаўторнае. Але на што яго скарысталі? Як? Яго выкарысталі на міражы. На хімеры. Выкарысталі самым жорсткім сярэдневяковым чынам. Выкінем у небыццё? Душы "памёршых бацькоў" лямантуюць...

Перад смерцю чалавек больш сумленны і ясны. Ён ужо не толькі чалавек нейкага часу, нейкай партыі, асяроддзя, прафесіі, ён ужо проста чалавек. Не кат і не ахвяра, а проста чалавек. І крык ягоны ў апошняе імгненне чалавечы. А што ёсць мастацтва? Мастацтва і ёсць крык чалавечы...

Слухай! Слухай яшчэ раз!!

## ЛІСТ ПЕРШЫ

"ВОСЬ і мая чарга. Мая рыса, я сама яе вызначыла. Калісьці мы са шчаслівай заўзятасцю пелі: "Смело мы в бой пойдем за власть Советов. І как один умрём в борьбе за это...". Памром!

Муж ніколі пасля сваёй смерці не прыходзіў да мяне. За ўсе пяцьдзесят гадоў ён аніразу не прыходзіў. А ўчора быў... Калі я ўсё вырашыла... Пяшчотны, цалаваў мяне. Сказаў, што за Аленку дараваў. Мы былі з ім шчаслівыя! Мы кахалі адзін аднаго! Тады ці зараз? Не памятаю. Усё зблыталася. Я не адчуваю, не разумею, у які час рэальна жыву, а які прыгадваю...

Можа быць, я проста баюся старасці. Баюся гэтага незнаёмага чужога твару ў люстэрцы. Ён такі ж мне чужы, як і мае маладыя фотаздымкі. Мая душа недзе пасярэдзіне — паміж тым, што я бачу ў люстэрцы раніцай, і тым, што захоўваецца ў старых альбомах. У яе нейкае іншае аблічча. Калі ўсё ж паспрабаваць усміхнуцца, то на вуліцы са сваімі маруднымі, са сваімі хворымі нагамі я адчуваю сябе тараканам сярод шафаў. "Смело мы в бой пойдем... І как один умрем...". Мы марылі аб Горадзе Сонца!

Я хацела памерці летам. Каб легчы ў сагрэтую сонцам зямлю. Але мае любімыя кітайскія хрызантэмы жылі ў гэтым годзе да першага снегу. Я не магла памерці раней, чым яны. Першы снег мне нагадаў, што Аленка памерла зімой. Памерла ў дзіцячым доме, куды я яе здала, калі ехала на фронт пад Царыцын. "Смело мы в бой пойдем... І как один умрем...". Я гатовая была памерці сама, але я не хацела, каб памерла Аленка. Яна памерла ад дызентэрыі, палова дзіцячага дома ў іх памерла ад дызентэрыі. Чаму яна памерла зімой? Іх клалі па тры-чатыры трупікі ў адну дамавіну, такія яны былі маленькія. Трунаў не хапала... У дзіцячы дом прывозілі толькі вялікія труны...

Я паехала на фронт Пад Царыцын. Мяне прызначылі камісарам. Там я ўпершыню сустрэлася са Сталіным. Я плакала, калі памёр Сталін. Ці плакала я, калі даведалася аб смерці Аленкі? Не памятаю. Я была маладая, я была камісар. Вакол кожны дзень паміралі людзі. Мы не плакалі. Гэта я памятаю. А ці плакала я адна? Не памятаю.

Учора муж прыйшоў пяшчотны, цалаваў мяне... Навошта я так доўга жыву? Я ніколі не баялася смерці... Мая бабуля, яна жыла да дзевяноста пяці гадоў, гаварыла, што гэта Бог яе пакараў. За што я пакараная? Мы марылі пабудаваць Горад Сонца! Усе будуць роўныя, усе будуць браты! Я не хацела, каб Аленка памерла. Ей было ўсяго тры годзікі. Але я любіла Горад Сонца!

Засталіся адны прывіды... Нельга верыць у прывіды... Свет, у якім я жыла, знік, яго зламалі, як састарэлую тэатральную дэкарацыю. Чыгунныя помнікі правадырам разбіваюць сабе галовы аб асфальт... Ніхто не марыць пра Горад Сонца, мараць пра каўбасу і танную гарэлку. Мне няма каму сказаць, што чалавеку патрэбна мара, каўбаса не можа быць марай. Для сына і ўнукаў я — старая непапраўная ідэалістка. Іншапланецянка! Неандэрталец! Я вельмі затрымалася ў зямных краявідах. Трэба паміраць разам са сваім пакаленнем. Разам з яго праўдай, яго хлуснёй і яго ілюзіямі. Мы сустрэнемся з табой, Аленка... З усіх прывідаў — жывых і чыгунных, якія вакол мяне, ты менш за ўсё прывід...".

(Працяг у наступным нумары).



# ПАКАЯННЕ

*Маладзёжная злачыннасць, якая расце вельмі хутка, у рэшце рэшт, відаць, прымусіць нас не толькі змагацца з ёй, заклікаючы на дапамогу сучасныя тэхнічныя сродкі і педагогіку з псіхалогіяй, але і самым сур'ёзным чынам шукаць пабуджальныя прычыны, якія штурхаюць юную душу на злачынства.*

Паспрабуем ахапіць адзіным позіркам усё невялікае жыццё гераіні гэтых нататкаў, дзяўчыны, якая, як здаецца, не падыходзіць да катэгорыі злачынцаў, тым больш забойцаў. Хачу засцерагчы ад імгненнай, аднозначнай ацэнкі яе ўчынку, хоць зразумела, што за ўчыненае Алена (будзем яе так называць) павінна адказаць перад законам. Злачынства вельмі цяжкае: забіта ўласнае нованароджанае дзіця. І зрабіў гэта чалавек нібыта псіхічна нармальны (хоць якая тут норма), цвярозы. Значыць, была нейкая сіла, якая прымусіла маці пазбавіць жыцця сваё дзіця.

Перад сустрэчай з Аленай я намагаўся пабудаваць пытанні так, каб зразумець, што прывяло да такой развязкі. Даведаўся, што ёй 18 гадоў, артыкул 101 (наўмыснае забойства), парушэнняў рэжыму з яе боку няма, маўклівая, сяброўак не мае, у цяперашні час рыхтуецца... стаць маці.

З размовы з Аленай:

— *Якія ў цябе ўспаміны пра дзяцінства, школу?*

— *У школе ўсё было добра. Адзінаццаць класаў скончыла ў вячэрняй школе, таму што неабходна было даглядаць малодшую сястру. Потым працавала на фабрыцы.*

— *Сям'я ў вас вялікая?*

— *Маці, айчым, сястра і я. Бацька пакінуў нас. Маці працуе ў вёсцы.*

— *Што прывяло цябе сюды?*

— *Пра гэта я не магу расказаць...*

— *Бацькі цікавіліся тваім жыццём?*

— *У іх сваё жыццё. Яны яшчэ маладыя. Для маці галоўнае — праца, забеспячэнне сям'і. Зараз успамінаю: расла я ў дзікай абстаноўцы, заўсёды без маці, выхоўвала мяне бабуля, потым у інтэрнаце жыла... маці ўласнае жыццё ўладкоўвала. Зараз яна мне гаворыць: "Трымайся". Я ніколі з ёй шчыра не размаўляла: яна была супраць гэтага. Зараз гаворыць, што і дапамагаць будзе, і дзіця забярэ, калі яно пачне хадзіць...*

— *А сяброўкі ў цябе былі?*

— *Сяброўак няма. Я ім не давяраю. Ёсць знаёмыя.*

— *Што змянілася ў тваім жыцці?*

— *Рэальна гляджу на жыццё, а тады была маладая і неразумная. Калі б я была больш дарослай, калі б было з кім параіцца...*

— *Як паводзіў сябе твой хлопец, калі даведаўся, што ты цяжарная?*

— *Калі я паведаміла яму пра гэта, ён рассмяяўся. Можа спалохаўся ці не паверыў. Ён — сябелюб.*

— *Калі б можна было пачаць усё спачатку?*

— *Я б плюнула на яго... Хачу вучыцца, паступіць у тэхнікум. Я ведаю, што здольна не толькі на подласць. Я хачу, каб другое маё дзіця... (плача).*

— *Якой павінна быць добрая сям'я, на тваю думку?*

— *Галоўнае — гэта добрыя ўзаемаадносіны, каб любілі дзяцей. Грошы і рэчы — не галоўнае ў жыцці, хоць гэта гучыць звычна. І мужчына не павінен ставіць сябе вышэй.*

— *Ці можа зараз паўтарыцца тая трагічная ў тваім жыцці сітуацыя?*

— *Думаю, у такой сітуацыі я не апынуся.*

— *Што дало табе такую ўпэўненасць?*

— *...Час.*

— *Можа, і пакаранне адыграла сваю ролю?*

— *Не. Я яшчэ да суда ўсё вырашыла.*

— *Тут у зоне бывае цяжка і без дзіцяці. Некаторыя аддаюць дзяцей у дзіцячы дом. У цябе не было такіх думак?*

— *Не, не, не, што вы...*

— *Ты ведаеш, што ў цябе ёсць магчымасць вызваліцца раней тэрміну?*



— *Добра, калі ёсць надзея. Уся мая гісторыя — нейкая недарэчнасць. Я сама апынулася ў рэанімацыі пасля ўсяго гэтага. Я думаю, што я не зусім непатрэбны чалавек...*

З цяжкім пачуццём я пакідаў калонію, так і не атрымаўшы адказ на пытанне аб тым, што штурхнула Алену на той ракавы ўчынак. Можа, гэта абыякавасць маці, можа справа ў тым, што не ўмела паводзіць сябе з хлопцам у пэўных абставінах або страх стаць маці ў гэтым свеце? Ці магла яна спадзявацца хоць бы на параду маці, сяброўак? Ці разлічвала яна на хлопца, які стаў бацькам яе дзіцяці, на яго спагаду?

Магчыма, бліснe іскра надзеі ў яе апушчаных вачах, і лёс яе, які цалкам адлюстраваў у сабе ўсе беды нашага жыцця, выпраміцца, дасць новы расток жыцця праз мукі пакаяння.

Сяргей КОВАЛЬ.
Фота аўтара.



## ІНФА-КРЫМ

### "Салодкая" гісторыя

У той час, як жыхары сталіцы рэспублікі ды іншых населеных пунктаў збіваюцца з ног у пошуках цукру, які стаў дэфіцытам перад чарговым павышэннем цэн, невядомыя злачынцы з Бярэзінскага раёна вырашылі набыць яго іншым шляхам. У ноч на 13 красавіка яны праніклі ў сховішча калгаса ў вёсцы Паплавы і выкралі адтуль 2 мяшкі цукру і 4 мяшкі насення.

### Да праблемы ўзаемаадносін полаў

Выпадак, які адбыўся 13 красавіка ноччу ў адной з сем'яў Барысава, рэзка адрозніваецца ад звычайных крымінальных паведамленняў пра так званыя "бытавыя" скандалы. Звычайна пацярпеўшай у няроўным баі аказваецца жонка. Але на гэты раз 34-гадовая жанчына, інжынер аднаго з гарадскіх прадпрыемстваў, узяла ініцыятыву бойкі ў свае рукі і параніла нажом у жывот свайго 36-гадовага мужа.

### Тэатр пачынаецца ... з аўтобуса

Ва ўсялякім выпадку, для кранаўшчыка аднаго з прадпрыемстваў Салігорска, які ў ноч на 13 красавіка выкраў з аўтобуса, што належаў Мазырскаму тэатру "Верасок", 2 музычныя калонкі і некалькі тэатральных касцюмаў.

## ІНФА-КРЫМ

### "Джэнтльмены ўдачы"

Амаль па сцэнарыю гэтай незабыўнай кінакамедыі дзейнічалі неўстаноўленыя злачынцы, якія ў панядзелак выкралі з ахоўваемай тэрыторыі базы ПМК-235 у г.п. Узда 14 ацяпляльных радыятараў.

### Мастацкая рэвалюцыя

Яна выспела ў мінулую пятніцу ў Мінскім мастацкім вучылішчы пры рэспубліканскай Акадэміі мастацтваў. Будучыя рэпіны і глазуновы забарыкадавалі ўваход у "Альма-матэр" на дзве гадзіны і вылучылі пакет патрабаванняў да адміністрацыі: утварыць камісію для вызначэння кампетэнтнасці выкладчыкаў вучылішча, правесці рэвізію гаспадарча-эканамічнай дзейнасці кіраўніцтва і г.д.

### Толькі лічбы

Паводле звестак сталічнай міліцыі, за мінулыя выхадныя ў Мінску былі зарэгістраваны 93 злачынствы, у тым ліку адно забойства і адно згвалтаванне. 34 злачынствы ўжо раскрытыя. 101 раз міліцыя выязджала на сямейныя скандалы. 101 чалавек загінуў пры пажарах.

У бюро дзяжурылі:
П. СІМАНАЎ,
М. ФЯДОТАЎ,
С. РАЧЫЛА.

Фітабар "ЧЗ"

Фітабар "ЧЗ"

# Лечымся... без лекаў!

Хочаце не хварэць? Парада простая: умацоўвайце свой арганізм. Аблівайцеся халаднаватай вадой, не забывайцеся на зарадку. А яшчэ вельмі дапаможа вітамінны чай. Напрыклад, такі:

шыпшына (плады) — 1 частка, рабіна (плады) — 2 часткі;

брусьнічнік (плады, лісты) — 2 часткі, лісты крапівы — 3 часткі, плады шыпшыны — 3 часткі;

плады чорных парэчак, лісты абляпіхі, лісты сунічніку, лісты брусьнічніку, буякоў, чарнічніку — пароўну;

буякі (плады), суніцы (плады) — пароўну.

Усё добра перамяшайце, сталовую лыжку сумесі заліце шклянкай кіпню, настойвайце 2-3 гадзіны ў цёмным месцы (можна ў тэрмасе) і піце на здароўе па паўшклянкі 3-4 разы на дзень.

Лекавыя ягады можна нарыхтаваць на запас: пасушыць, намачыць, зрабіць вітамінныя напіткі.

**Але калі ўсё ж такі адчуеце сімптомы прастуды,** адразу заварвайце любыя расліны — драсён птушыны, мацярдушку звычайную, маліны, кветкі бузіны сібірскай, кветкі ліпы, рамонка аптэчнага, дзіванну, кару вярбы, лісты мяты перачнай, *кветкі півоні, корань лакрычніку, плады* фенхелю, траву фіялкі. Трэба ўзяць 1-2, а можна і 3-4 травы (лісты), у роўнай прапорцыі, перамяшаць, сталовую лыжку заліць шклянкай кіпню, настаяць паўгадзіны і піць гарачым па 2-3 шклянкі пасля яды. А вось **пры кашлі, бранхіце, бранхіяльнай астме** да 0,5 кг пакрышанай цыбулі дадаць 100 г мёду, 300 г цукру, 1 л вады і праварыць 1,5-2 гадзіны на павольным агні. Ужывайце па сталовай лыжцы 5-6 разоў на дзень пасля яды.

Добра дапамагаюць інгаляцыі над бульбянай лупінай, зваранай у несалёнай вадзе. Парам дыхаць неабходна 10-15 хвілін. Можна дадаць у адвар чайную лыжку пітной соды.

Плады каліны з мёдам добра лечаць прастуду ў гіпертонікаў. Шклянку пладоў заліце адным літрам вады, пракіпяціце 5-7 хвілін, працадзіце, растварыце 2-3 сталовыя лыжкі мёду і ўжывайце па паўшклянкі 3-4 разы на дзень за паўгадзіны да яды.

**Калі вы пакутуеце на прастудны кашаль,** дапаможа такі рэцэпт. Сок рэдзькі пасяўной змяшайце з мёдам у роўнай прапорцыі. Ужываць трэба па сталовай лыжцы 3 разы на дзень, дзецям — па чайнай.

Настой кораня дзівасілу дапаможа **пры кашлі, бранхіце.** Да чайнай лыжкі кораня дадайце шклянку кіпню, настойвайце 10-12 гадзін. Піць трэба па чвэрці — паўшклянкі за паўгадзіны да яды 3-4 разы на дзень. Другі састаў: сумесь кветак бузіны, лістоў трыпутніку, травы фіялкі, травы расянкі (пароўну) — 1 сталовая лыжка заліваецца шклянкай халоднай вады і вытрымліваецца 2-3 гадзіны, кіпяціцца 2-3 хвіліны, астуджваецца і выпіваецца па чвэрці шклянкі на працягу дня.

**Калі баліць горла,** ужываюць свежы сок рэпчатай цыбулі па чайнай лыжцы 3-4 разы на дзень, дзецям рэкамендуецца разводзіць яго напалам з кіпнем. Можна падрыхтаваць такую сумесь: здробнены корань хрэну (1 чайная лыжка), цыбуліну і 3 зубчыкі часнаку заліваюць 2 шклянкамі халоднага кіпню, працэджваюць і палошчуць горла 5-6 разоў на дзень. Эфектыўнае паласканне горла густым адварам пладоў чарніц (50 г сухіх пладоў заліваюць дзвюма шклянкамі вады, кіпяцяць 5-10 хвілін).

**Здаецца, самы час нагадаць рэцэпты народнай медыцыны, калі ў аптэках не знойдзеш ні мікстуры ад кашлю, ні аспірыну.**

**Пры ларынгіце, фарынгіце, ангіне** дапамагае паласканне сумессю рамонка і лістоў эўкаліпту. Змяшаць іх трэба пароўну, адну чайную лыжку збору заліць шклянкай кіпню, настойваць 30 хвілін, працадзіць і паласкаць горла 5-6 разоў на дзень.

**Калі справа дойдзе да грыпу,** то дапамагчы могуць маліны. Плады ці лісты малін у спалучэнні з кветкамі ліпы (1:1) заліваюць (1 сталовую лыжку) шклянкай кіпню і п'юць на ноч гарачым, лепш з мёдам. Плады анісу, малін, лісты падбелу, траву мацярдушкі, кветкі ліпы і фіялкі трохкаляровай (усё пароўну) змешваюць і ўжываюць гэтак жа.

**Пры моцным насмарку** рэкамендуецца закапваць у нос па некалькі кропель соку цыбулі, разведзенага напалам кіпнем. Дапамагае і сок часнаку ці часночнае масла. Да 2-3 зубкоў дробна стоўчанага часнаку дадаюць 2 сталовыя лыжкі сланечнікавага алею, настойваюць 1-2 гадзіны, адціскаюць і закапваюць па 1-2 кроплі.

## НАРОДНЫЯ СРОДКІ

☐ **Ад хваробы нырак, страўніка ці малакроўя**

Лепшае лячэнне — напітак з шыпшыны, вельмі багатай на вітамін С. Дзве чайныя лыжкі (з верхам) сушанай шыпшыны пакласці ў шклянку кіпню. Заварыць, як чай, і піць тры разы на дзень пасля яды.

☐ **Ад бранхіту і кашлю ў дзяцей**

Нарэзаць рэдзьку маленькімі кубікамі, пакласці ў каструлю і пасыпаць цукрам. Запякаць у духоўцы на працягу дзвюх гадзін. Працадзіць, выкінуць кавалкі рэдзькі, а вадкасць зліць у бутэльку. Доза: дзве чайныя лыжкі тры-чатыры разы на дзень перад ядой і на ноч перад сном.

☐ **Ад запору**

Знахары раяць піць ваду, у якой доўга варыліся слівы ці авёс. І яшчэ парада: сок рэдзькі, расол капусты ў цёплым выглядзе, сыраквашу і чай з сушанай вішні і сушаных яблыкаў піць чатыры-пяць разоў на дзень.

☐ **Ад паносу ў дзяцей**

Чайную лыжку рысу заліць вадой (шэсць-сем шклянак), паставіць кіпяціць на павольны агонь. Атрыманы адвар астудзіць і цёплым даваць хвораму дзіцяці па адной трэцяй кубачка кожныя дзве гадзіны. Папярэдне адвар працадзіць праз марлю або сіта.

☐ **Ад сэрцабіцця**

Наліць у каструлю чвэрць літра вады і ўскіпяціць. Усыпаць у каструлю чатыры грамы травы адонісу. Кіпяціць на павольным агні не больш як тры хвіліны. Накрыць шчыльна каструлю і паставіць у цёплае месца на 20 хвілін. Працадзіць. Піць тры разы на дзень па сталовай лыжцы на працягу некалькіх дзён.

☐ **Ад сардэчных захворванняў**

Знахары заўсёды раілі хворым на сэрца піць чай з кветак фіялак. Піць доўга, шмат разоў на дзень.

☐ **Ад ацёкаў у нагах**

Піць адвар з ільнянога насення: 4 лыжкі насення на літр вады. Кіпяціць 10-15 хвілін. Каструлю закрыць і паставіць у цёплае месца на гадзіну. Можна не працэджваць. Для смаку дадаць лімоннага ці іншага фруктовага соку. Піць па паўшклянкі праз кожныя дзве гадзіны, лепш гарачым. Вынік будзе праз два-тры тыдні.

☐ **Ад дыятэзу**

Змяшаць у роўнай колькасці сардэчнік, валяр'ян, мяту, святаяннік, ваўчкі, заварыць. 15 мінут — вадзяная "лазня", 45 хвілін даць настаяцца пры пакаёвай тэмпературы. Доза для груднога дзіцяці — чайная лыжка на шклянку кіпню, для малога ад года да трох — лыжка дэсертная.

## САКРЭТЫ ТЫБЕЦКАЙ МЕДЫЦЫНЫ

☐ **Пры язве страўніка і дванаццаціперснай кішкі**

Піць нашча раніцай і перад абедам па 100 г напару чыстацелу. Траву класці да паловы пасудзіны, дробна нарэзанай (разам з каранём), потым запоўніць пасудзіну кіпнем. На ноч не ўжываць. Калі трава сухая, пасудзіну напоўніць да адной трэцяй. Курс лячэння — два-тры тыдні.

☐ **Пры захворваннях страўнікава-кішачнага тракта**

Карыстацца напарамі: чабор, падбел, піжма, сухацвет, рамонак, ягады брусніц і чарніц, палын, корань валяр'яну.

☐ **Пры болю ў страўніку**

Напар святаянніку, вятроўніку, крапівы або адвар з перагародак грэцкага арэха.

☐ **Пры павышанай кіслотнасці**

Напар наступнага збору: мята перачная, крываўнік, святаяннік — дзве часткі, семя кропу, бабоўнік — 1/4 часткі.

